© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№ 506 Сакавік 2005 г.
Год выданьня 55

# 25 САКАВІКА - 87-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі!

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі



## Зварот да беларускага народу

Дарагія суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам - нашым Днём Волі - Днём 25-га Сакавіка.

З сумам канстатую, што афіцыйная Беларусь, у адрозьненьне ад усіх суседніх народаў былой расейскай імпэрыі, дасюль не адзначае абвешчаньня пасьля доўгай няволі незалежнасьці сваёй дзяржавы. Без абвешчаньня Радай БНР незалежнасьці ў 1918-м годзе сёньня ўжо беларускай дзяржаўнасьці, магчыма, не было-б.

Дарагія суродзічы, шмат гаворыцца і пішацца апошнім часам у сьвеце пра будучыню Беларусі. Але толькі ад беларускага народу - ад нас самых - будзе залежаць, ці Беларусь застанецца другой Кубай на парозе заможнай Эўропы ці станецца паўнавартасным сябрам эўрапейскай супольнасьці.

Цяпер, як ніколі, нам трэба паказаць сьвету, што мы народ эўрапейскі, што паважаем адзін аднаго і салідныя ў змаганьні за нацыянальную годнасьць і лепшае жыцьцё.

Палітыкі, якія змагаюцца не за дабро Беларусі, а між сабою за ўладу, ня вартыя нашай увагі. Далучайцеся да радоў тых змагароў, якія ведаюць, што толькі зьяднанымі мы створым вольную і дэмакратычную Беларусь, і што толькі тады наш народ зойме пачэснае месца між народамі сьвету.

Са свайго боку, Рада БНР будзе змагацца пакуль не дасягне гэтай мэты.

Дык памажы нам Божа! Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне

**мае гонар запрасіць усіх зацікаўленых на Банкет і Канцэрт, прысьвечаны 87 гадавіне абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Імпрэза адбудзецца ў нядзелю 20 сакавіка а 12:30 папаўдні ў Regency Ballroom гатэлю Hyatt Regency па адрасу:**

***Two Albany Street, New Brunswick, New Jersey.***

**Перад імпрэзай пройдзе набажэнства ў царкве Сьв. Маці Божай Жыровіцкай БАПЦ (пачатак а 10 раніцы) па адрасу:**

***9 River Road, Highland Park, New Jersey.***

**У праграме сьвяточнай імпрэзы выступ спн. Валянціны ПАРХОМЕНКІ й трыё сям'і КАЗАК, а таксама знакамітага сьпевака зь Беларусі сп. Лявона ВОЛЬСКАГА.**

**Квіткі-$40, студэнтам $20 просім аплаціць загадзя. Замовы й аплату дасылайце на адрас:**

***Belarusan American Association***
***P.O. Box 1347***
***Highland Park, NJ 08904***

**Інфармацыя: сп. Юрка АЗАРКА (732) 560-8610**
**або сп. Віталь ЗАЙКА (718) 296-1458**

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Адносіны да падстаўной "апазыцыі"

*( Урывак з артыкулу "Развагі пра беларускія справы" )*

Амаль 70 гадоў існаваньня ў СССР у Беларусі адсутнічала незалежная ад рэжыму ўсялякая культурніцкая, грамадзкая, палітычная (і тым больш апазыцыйная) дзейнасьць. Грамадзтва ня ведала ніякіх незалежных палітычных формаў, ня мела ніякага палітычнага вопыту. У постсавецкі час КГБ выкарыстаў гэтую акалічнасьць для арганізацыйнай прысутнасьці ў палітыцы.

Савецкія спэцслужбы, што засталіся на постсавецкай прасторы, шырока выкарысталі прыём падстаўных арганізацыяў. Яны дзяліліся на дзьве катэгорыі: палітычныя партыі й – правакацыйныя радыкальныя групы. У арганізацыях партыйнага кшталту выкарыстоўвалася, як правіла, агентура. У групоўках другога роду – як правіла, кадравыя функцыянэры спэцслужбаў.

У 90-х гадох найбольш вядомай радыкальна правакацыйнай групай такога роду была арганізацыя УНА-УНСО на Ўкраіне. Кіраўніцтва курыравалася спэцслужбамі, а шэрагоўцамі былі ў асноўным патрыятычныя ўкраінскія хлопцы, зь якімі праводзілі мэтанакіраваную працу.

Па такому-ж прынцыпу была створаная ў Беларусі арганізацыя "Край". Некалькі гадоў таму (у выніку штучна разыгранага нібыта "канфлікту") асобы з кіраўніцтва "Краю" апынуліся за мяжою і атрымалі статус палітычных уцекачоў. Гэта кадравы супрацоўнік КГБ Жарнасек і ягоны напарнік (таксама кадравы гэбіст) Угляніца. У гэты-ж час палітычны прытулак у Бэльгіі атрымаў яшчэ адзін кіраўнік "Краю" Вадзім Кабанчук. У 1996-97 гг. – гэта вядомы фронтаўскі змагар. За вызваленьне яго з турмы (а таксама Шыдлоўскага і Лабковіча) мной і С. Навумчыкам (за мяжой), іншымі фронтаўцамі – у Беларусі – было пакладзена шмат стараньняў, часу і энэргіі. Па зьвестках, Кабанчука катавалі ў турме, каб ён згадзіўся на супрацоўніцтва зворганамі.

У Бэльгіі цяпер назіраецца самая вялікая канцэнтрацыя агентуры ФСБ-КГБ, засланай праз беларускія арганізацыі. Яны ствараюць там "новую беларускую эміграцыю", пікетуюць, лезуць у Раду БНР, у радыё "Свабода", прапануюць паслугі, выступаюць з "ініцыятывамі" і г. д.

Прытым робіцца гэта ўсё прымітыўна, прасталінейна і прымітыўна, што нават дзіву даешся. Выкарыстоўваюцца самыя банальныя схемы. Напрыклад, у другой палове 90-х (калі быў масавы ўздым БНФ) два суб'екты (прозьвішчы нам вядомыя як і ўсіх іншых) уступаюць у Народны Фронт і праз нейкі час публічна і прынародна ўскладаюць вянок з калючага дроту пад помнік Ф. Дзяржынскаму насупраць КГБ. "Артыстаў", вядома-ж, арыштоўваюць, даюць пару сутак, "свае людзі" ў СМІ падымаюць лямант ("змагары", "правы чалавека" і г. д.). Неўзабаве суб'екты ўжо ў Бэльгіі, "палітычныя ўцекачы", уцяклі, маўляў, ад пераследу рэжыму. (Зазначу, што Бэльгія нязручная краіна для эміграцыі. Але "апазыцыйная" агентура туды лезе, як машкара. Вядома-ж – Брусэль, Эўразьвяз, Эўрапарлямант, Эўракамісія. У 1996-97 гг. усе ведалі ў БНФ правакатара Леаніда Васючэнку. Цяпер і ён падаўся ў Бэльгію, "палітычны ўцякач" (здаецца, атрымаў нават азыль, значыць хутка пачне падтрымліваць Раду БНР). Ці, напрыклад, быў у "Народнай Волі" такі падазроны "журналіст" Алесь Сіліч, які часта ёрнічаў і скрыпеў пяром, маўляў, прыяжджайце, Зенон Станіслававіч, будзем працаваць разам для роднай Беларусі. Гэта з той публікі, якая піша: "я-бы радзіму ня кінуў" (нібыта ў іх існуюць праблемы жыцьця і сьмерці). Цяпер гэты хацелец "працаваць" без дай прычыны таксама ў Бэльгіі й таксама "палітуцякач".

Па зблізанай схеме з "Краем" стварылі таксама "Белы легіён" і "Зубр" (арганізацыя для адводу беларускай моладзі ад нацыянальнага Адраджэньня). У савецкі (гарбачоўскі пэрыяд) і постсавецкі часы, практычна, усе партыі ў Беларусі (акрамя адной) былі створаныя пры садзеяньні й ўплыве спэцслужбаў КГБ.

"Акрамя адной" – гэта Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, якая была ўтвораная Беларускім Народным Фронтам. Спэцыяльна для гэтай працы былі вылучаныя кіраўнікі БНФ Міхась Ткачоў (намесьнік старшыні БНФ), Алег Трусаў, Міхась

**Працяг на бачыне 6**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Сустрэча ў Антвэрпэне

У Антвэрпэне (Бэльгія) 31 студзеня 2005 году адбылася сустрэча кіраўніцтва Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня (БЭЗ) з прадстаўнікамі паваеннай хвалі беларускай эміграцыі. У ёй прымалі ўдзел спн. Зоя Смаршчок-Жалязоўская, сп. сп. Янка Жучка, Аляксей Арэшка, старшыня БЭЗу Зьміцер Піменаў, намесьнік старшыні БЭЗу Ігар Лазарчук.

Гэта ўжо ня першая сустрэча такога кшталту. Ад пачатку гуртаваньня ў Бэльгіі палітычных уцекачоў зь Беларусі беларускія вэтэраны прымаюць актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах. Дзякуючы іх дапамозе была заснаваная беларуская грэка-каталіцкая парафія ў Антвэрпэне. Супольна праводзяцца сьвяткаваньні беларускіх нацыянальных сьвятаў. Ня гледзячы на паважны ўзрост, нашыя старэйшыя сябры ўдзельнічалі ў пікетаваньні беларускай амбасады йустановаў Эўразьвязу. Спн. Смаршчок-Жалязоўская і сп. сп. Арэшка і Жучка пакінулі Беларусь падчас Другой сусьветнай вайны, прайшлі праз усе выпрабаваньні й захавалі ў сваіх сэрцах Беларусь.

Падчас сустрэчы было абмеркаванае сёньняшняе становішча ў Беларусі й замежжы. Беларускія вэтэраны распавялі пра станаўленьне беларускіх арганізацыяў у Эўропе, былі запісаныя ўспаміны пра жыцьцё і дзейнасьць дыяспары. Для беларускай бібліятэкі былі падараваныя кнігі й падшыўка часапіса "Наперад".

*Сяргей ПАШКЕВІЧ*
*Прэс-сакратар БЭЗ*



***На здымку:** Ігар Лазарчук, Аляксей Арэшка, Зоя Смаршчок-Жалязоўская, Янка Жучка, Зьміцер Піменаў.*

# Эўрапарлямэнт пра Беларусь



Эўрапейскі парлямэнт ухваліў 10 сакавіка рэзалюцыю ў справе палітычных зьняволеных у Беларусі. Рэзалюцыя ўтрымлівае больш за 20 пунктаў і тычыцца ня толькі палітзьняволеных, але таксама і агульнай сытуацыі ў Беларусі. У рэзалюцыі палітычны рэжым у Беларусі ўпершыню названы дыктатурай, а сам кіраўнік краіны дыктатарам. За абмеркаваньнем рэзалюцыі ў Эўрапарлямэнце сачыў наш карэспандэнт.

У Рэзалюцыі дэпутаты Эўрапарлямэнту заклікалі беларускія ўлады сярод іншага неадкладна вызваліць Міхаіла Марыніча, Валерыя Леванеўскага, Аляксандра Васільева, іншых палітзьняволеных, а таксама прафэсара Юрыя Бандажэўскага ды расьсьледаваць справы зьніклых беларускіх палітыкаў.

У Рэзалюцыі ўтрымліваецца заклік да ўладаў Эўразьвязу знайсьці і замарозіць замежныя рахункі Аляксандра Лукашэнкі, стварыць незалежнае радыё і тэлебачаньне для Беларусі, фонд падтрымкі для сем'яў палітычных вязьняў, дапамагчы беларускім студэнтам, выключаным зь беларускіх ВНУ з апалітычную дзейнасьць, ды іншыя.

У часе дэбатаў над праектам Рэзалюцыі выступоўцы заклікалі Эўрапейскую камісію неадкладна займацца асабліва тымі пунктамі дакумэнту, якія тычацца патрабаваньняў вызваліць палітычных вязьняў.

Рэзалюцыю Эўрапейскага парлямэнту трэба разглядаць як рэкамэндацыю для Эўрапейскай камісіі аб тым, што трэба зрабіць у справе дачыненьняў зь Беларусьсю. Тым ня менш, рэзалюцыя мае значную вагу.

Гэта ўжо трэцяя рэзалюцыя Эўрапейскага парлямэнту ў справе Беларусі, што сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці парлямэнту сытуацыяй у Беларусі. Рэзалюцыя была падрыхтаваная вельмі хутка і яе падтрымліваюць усе без выключэньня фракцыі. Пасьля аранжавай рэвалюцыі ва Украіне, Эўрапарлямэнт у значна большай ступені разумее значэньне беларускіх справаў.

*Радыё Свабода*

# Зьезд беларусаў сьвету!
# Падмуркі кансалідацыі

**Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" запрашае беларусаў сьвету на чарговы Чацьвёрты зьезд!**

Больш за 3 мільёны беларусаў стала жывуць па-за межамі Беларусі. Беларуская дыяспара жыве актыўным грамадзкім жыцьцём, назапашвае культурныя і навуковыя здабыткі, адкрывае школы, тэатры, цэрквы й музэі, выдае газэты й часапісы, арганізоўвае ўласны бізнэс. Беларусы замежжа – неад'емная частка нацыі, здольная вельмі актыўна ўплываць на жыцьцё Радзімы. Аднак з-за штучных перашкодаў дзьве вялікія часткі беларускай нацыі – беларусы ў Беларусі і беларусы ў сьвеце – абсалютова адарваныя і ня маюць амаль аніякага ўзаемадзеяньня. Вялізарны мастацкі, навуковы, палітычны й эканамічны патэнцыял беларускай дыяспары застаецца для грамадзтва Беларусі недасягальным. У такіх абставінах беларуская дыяспара нраздольная стаць дзейсным фактарам разьвіцьця Беларусі, нават маючы для гэтага і магчымасьці, і жаданьне.

Сучасная беларуская дзяржава прынцыпова няздольная адэкватна рэагаваць на *глябальныя праблемы беларускай гісторыі*. Больш за тое, беларускія ўлады паступова, але няўхільна, страчваюць нават зьнешнія рысы беларускасьці. На дзяржаўным узроўні ў Беларусі беларуская мова фактычна выкінутая зь дзяржаўнага ўжытку і сродкаў масавай камунікацыі (радыё, тэлебачаньне, СМІ). У той-жа час у Беларусі дэнацыяналізаваная частка беларускай інтэлігенцыі ўжо ўсур'ёз сьцьвярджае аб немагчымасьці й няздольнасьці існаваньня беларускай мовы ў рэальным жыцьцёвым побыце. Гэтае становішча, як і шмат разоў у гісторыі, нараджае адпаведныя часу грамадзкія ініцыятывы, якія ажыцьцяўляе найбольш сьвядомая частка беларускай супольнасьці.

У Беларусі за годнае месца сваёй культуры змагаюцца многія адданыя беларусы, якія ў беларускім грамадзтве стварылі асаблівы культурны пласт. Яны – найактыўнейшая частка нацыі, здольная ствараць беларускую гісторыю ў нацыянальным рэчышчы. Ім і патрэбная *маральная і арганізацыйная падтрымка беларусаў замежжа*. Яны складаюць 13% грамадзтва, і на першы погляд здаецца, што іх мала. Але гэта ня так. Калі зьвярнуцца да гісторыі – ўбачым, што беларуская шляхта, самы актыўны пласт беларускага грамадзтва мінулага, рухала гісторыю нашай краіны, складаючы ўсяго 10%.

Прыходзіць час стварэньня новай беларускай эліты, апантанай трыма жыцьцевызначальнымі пачуцьцямі: любоў да Айчыны, пачуцьцё абавязку перад ёю і адказнасьць за лёс свайго народу. Дыяспара, як актыўная частка нацыі здольная рашуча ўключыцца ў гэтыя працэсы, тым больш, што яны непасрэдным чынам адбіваюцца і на самой дыяспары. Пры гэтым беларусы замежжа валодаюць унікальнай магчымасьцю ствараць імідж беларускай нацыі ў вачох сусьветнай супольнасьці й магчымасьцю абапірацца на цывілізацыйны вопыт народаў сьвету.

Своечасовае і пасьпяховае вырашэньне ўсіх гэтых праблемаў дазволіць беларускай нацыі захаваць сваю культурную і дзяржаўную прысутнасьць у новым тысячагодзьдзі. І мы маем ўсе магчымасьці й сілы дасягнуць посьпеху. Ня маем толькі самага складанага – сусьветнай беларускай кансалідаванасьці. Але годна выстаяць перад глябалізацыяй, сацыяльнымі й прыроднымі катаклізмамі сучаснасьці змогуць толькі кансалідаваныя нацыі. Вера, мова, культура, гістарычныя традыцыі, дзяржаўнасьць, нацыянальная самасьвядомасьць – шляхі й падмуркі такой кансалідацыі.

У адказ на гэты глябальны выклік сучаснасьці і дзеля распрацоўкі дзейснага механізму нацыянальнай кансалідацыі Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" склікае Чацьвёрты зьезд беларусаў сьвету. Ён адбудзецца 16-17 ліпеня 2005 году ў Менску. Тэма Зьезду – "Беларусь для дыяспары – дыяспара для Беларусі. Шляхі да кансалідацыі і разьвіцьця нацыі."

Згуртаваньне "Бацькаўшчына" ужо склікала Зьезды беларусаў сьвету ў 1993, 1997 і 2001 гадох. У чым карэнная розьніца гэтага форуму ад папярэдніх? У зьмене зьнешніх і ўнутраных абставінаў і ўмоваў. Новы сьвет, новыя глябальныя працэсы, новая беларуская супольнасьць, узброеная новымі тэхнічнымі магчымасьцямі, і, разам з тым, – нясьмелыя і раз'яднаныя спробы беларускага адказу на праблемы.

Ужо зь лістападу 2004 году ідзе актыўная праца па падрыхтоўцы Зьезду. Складзены і пачаў працу Аргкамітэт, у які ўвайшлі дзеячы беларускай дыяспары і выбітныя асобы Беларусі, разам – 105 чалавек.

Старшынём Аргкамітэту абраны кіраўнік Згуртаваньня "Бацькаўшчына" прафэсар Анатоль Грыцкевіч, сустаршыні – Янка Запруднік (ЗША), Алена Макоўская, Радзім Гарэцкі, Валеры Герасімаў, Барыс Стук (Беларусь). Апэратыўныя пытаньні падрыхтоўкі Зьезду вырашае Рабочая група Аргкамітэту на чале з старшынём Рады "Бацькаўшчыны" Аленай Макоўскай.

На Зьезд зьбяруцца прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў і грамадзкія дзеячы з 25 краінаў сьвету. Агульная колькасьць дэлегатаў і гасьцей Зьезду складзе каля 400 асобаў.

Ва ўмовах поўнай адсутнасьці дзяржаўнай падтрымкі і напаўпадпольнай дзейнасьці беларускага бізнэсу актуальнаю праблемаю становіцца фінансавае забесьпячэньне Зьезду. Галоўным ініцыятарам і арганізатарам Зьезду застаецца Згуртаваньне "Бацькаўшчына", але адзінай фінансавай крыніцаю дзейнасьці "Бацькаўшчыны" на працягу многіх гадоў застаюцца дабрачынныя ахвяраваньні яе сяброў.

*Управа Згуртаваньня Беларусаў Сьвету* і Аргкамітэт па падрыхтоўцы Зьезду зьвяртаюцца да ўсіх беларускіх арганізацыяў і суайчыньнікаў з просьбаю аказаць фінансавую дапамогу і стаць фундатарамі Чацьвёртага зьезду беларусаў сьвету.

Па рашэньні Аргкамітэту фундатары Зьезду атрымаюць спэцыяльныя ўзнагароды. Прозьвішчы фундатараў будуць зьмешчаныя ў спэцыяльны разьдзел зборніка "Матар'ялы Чацьвёртага зьезду беларусаў сьвету". Зборнік будзе надрукаваны па выніках Зьезду і разасланы па асяродках беларускай дыяспары ў сьвеце.

Важнай складаючай падрыхтоўкі Зьезду зьяўляецца інфармацыйная кампанія. Управа "Бацькаўшчыны" зьвяртаецца таксама да беларусаў замежжа па дапамогу ў справе інфармаваньня міжнародных інстытутаў па правах чалавека (ЗША, краіны Эўразьвязу, структуры ААН і інш.) пра Зьезд, пра неабходнасьць шырэйшай падтрымкі зь іх боку беларускага этнасу і мовы.

*Па пытаньнях удзелу ў сусьветным беларускім форуме*, з прапановамі па фундаваньні зьезду запрашаем зьвяртацца ў Згуртаваньне "Бацькаўшчына" на электронны адрас ***zbsb@tut.by***, па тэлефонах ***(+375 17) 289-3194, 226-8737*** альбо па адрасу ***"Backauscyna", vul. Revalucyjnaja, 15 Minsk 220030 BELARUS***.

Ахвяраваньні на Зьезд можна дасылаць на рахунак, які пазначаны на сайце "Бацькаўшчыны" альбо непасрэдна каардынатарам па падрыхтоўцы Зьезду ў кранах пражываньня.

Каардынатары па ЗША: Вітаўт Кіпель, Лявон Юрэвіч; па Канадзе: Надзея Дробіна.

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Беларусь за месяц

## Аб Беларусі ў Брацілаве

Грамадзяне Беларусі могуць выкарыстаць свой шанец і зрабіць крок да свабоды й дэмакратыі. Пра гэта заявіў Джордж Буш падчас выступу ў славацкай сталіцы 24 лютага. "Я веру, што аднойчы настане дзень, калі да свабоды прыйдуць усе краіны й народы. Абараняць свабоду — справа нялёгкая. Пра гэта ведаюць тыя, хто выйшаў на Майдан Незалежнасьці ў Кіеве і на плошчу Свабоды ў Тбілісі", — падкрэсьліў амэрыканскі прэзыдэнт.

Выступ Дж.Буша выклікаў розныя пачуцьці ў беларускім грамадзтве. Прыступ злосьці й жоўці ў афіцыйных колах і дзяржаўных сродках масавай інфармацыі й уздыму ў дэмакратычным асяродзьдзі.

## Адзіны кандыдат

Савет дэмакратычных сілаў — куды ўваходзяць Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Беларуская экалягічная партыя "зялёных", Партыя БНФ, Партыя камуністаў Беларусі — зацьвердзіў канчатковы варыянт стратэгіі вылучэньня адзінага дэмакратычнага кандыдата на будучыя прэзыдэнцкія выбары. Схема вылучэньня застаецца ранейшай, толькі зь невялікімі зьменамі: зараз 230-250 дэлегатаў на Нацыянальны кангрэс дэмакратычных сілаў у чэрвені, дзе мяркуецца абвясьціць імя адзінага кандыдата, будуць абірацца на сумесных раённых і гарадзкіх паседжаньнях дэмактыву. Яшчэ 500 дэлегатаў — квота палітычных партый, недзяржаўных грамадзкіх аб'яднаньняў і прафсаюзаў.

Толькі чым бліжэй да лета, тым меней шанцаў на тое, што апазыцыя, рэйтынг даверу якой складае ня больш за 10%, здолее дамовіцца. Пра ўдзел у прэзыдэнцкай гонцы заявілі лідэр ПКБ Сяргей Калякін, ад Партыі БНФ і Партыі "зялёных" колішні старшыня Асацыяцыі рэсурсавых цэнтраў Алесь Мілінкевіч, ад АГП — Анатоль Лябедзька, ад БСДГ — Станіслаў Шушкевіч. Напэўна, гэтыя кандыдаты будуць дамаўляцца паміж сабою пра кандыдатуру адзінага.

Аднак акрэсьліўся і сьпіс "некантраляваных" кандыдатаў, якія наўрад ці пойдуць на кампрамісы й пагадненьні. Гэта бізнэсовец Андрэй Клімаў, колішні лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч, эксміністар замежных справаў Пятро Краўчанка, старшыня КХП БНФ Зянон Пазьняк. Пры канцы лютага да гэтага сьпісу дадаўся былы стаўленьнік Лукашэнкі, рэктар БДУ ў 1996—2003 гг. Аляксандар Казулін. Апошні нават стварыў грамадзкі рух "Воля народу", дзе прадстаўленыя "усе слаі насельніцтва". Да таго-ж раскруткаю Казуліна занялася самая масавая ў Беларусі недзяржаўная газэта "Народная воля".

## Вайтовіч — першы

НІСЭПД (Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, кіраўнік Алег Манаеў) выдрукаваў "Пэрспэктывы дэмакратычных кандыдатаў у прэзыдэнты", дзе выведзены рэйтынг прымальнасьці дзесяці асобаў беларускай палітыкі, якія прэтэндуюць на званьне адзінага кандыдата ад апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах — 2006.

Бралася пад увагу прымальнасьць кандыдатаў сярод электарату, намэнклятуры, дэмакратычных сілаў, а таксама Расеі й Захаду. Паводле Інстытуту найбольшую прымальнасьць мае экс-прэзыдэнт Акадэміі навук і былы старшыня Савету Рэспублікі Аляксандар Вайтовіч, на другім месцы — генэрал Валеры Фралоў, трэцяе-чацьвёртае падзялілі экс-міністар сельскай гаспадаркі й былы вязень Васіль Лявонаў ды прафсаюзны лідэр Аляксандар Ярашук, далей ідуць Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька, Аляксандар Мілінкевіч, Мікола Статкевіч, дырэктар зачыненага ўладамі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю Уладзімер Колас і бізнэсовец Андрэй Клімаў.

Іншыя асобы не разглядаліся. Відаць, рэйтынг пачалі складаць да зьяўленьня гэтак званай "Волі народу".

## Марыніча не адпускаюць

18 лютага пастановаю Калегіі Менскага абласнога суду паменшаны вырак пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму зь пяці да трох з паловаю гадоў грамадзяніну і палітычнаму дзеячу Міхаілу Марынічу.

Адвакаты Марыніча падалі скаргу ў суд вышэйшай інстанцыі, зьвярнуўшы ўвагу на тое, што пры разглядзе справы ў раённым судзе былі недакладна патлумачаныя паказаньні сьведкаў і дапушчаны шэраг працэсуальных парушэньняў. Абаронцы таксама настойвалі на тым, што прысуд несправядлівы й падлягае адмене. Аднак пракурор Марыя Маркевіч заявіла, што, наадварот, справа Марыніча сьведчыць, што перад законам у Беларусі ўсе роўныя — і Марыніч, і просты грамадзянін.

Сп. Марынічу 13 студзеня споўнілася 65 гадоў.

## Злыбеды Антончыка

Разрэклямаваны ў прэсе ўстаноўчы сход новага грамадзкага аб'яднаньня "Айчына", якое ўзначаліў былы дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Антончык не адбыўся. Пошукі памяшканьня цягам некалькіх месяцаў былі марнымі: гарадзкія ўлады так і не далі згоды на арэнду. Антончык і ягоныя прыхільнікі сабраліся 5 лютага на прыватнай кватэры. Празь нейкі час у кватэру зайшлі супрацоўнікі праваахоўчых органаў і заявілі, што прысутныя затрыманыя. Усіх завезьлі ў пастарунак, праз тры гадзіны адпусьцілі. На Антончыка склалі пратакол за парушэньне грамадзкага парадку — арганізацыя несанкцыянаванага сходу.

24 лютага судзьдзя суду Савецкага раёну Менску Аксана Рэлява аштрафавала Сяргея Антончыка на 150 базавых велічыняў (каля $1660).

"Зараз любых гасьцей і любы сход у прыватнай кватэры — памінкі, вяселле, хаўтуры, сустрэчы выпускнікоў — можна лічыць несанкцыянаваным сходам. Пакрысе Беларусь вяртаецца ў 1937 год. Раней забіралі на вуліцах у пікетах, зараз нас будуць забіраць наўпрост на кватэрах", — зазначыў сп. Антончык у інтэрвію журналістам.

## Завялі справу

Пры канцы лютага лідэра Партыі БНФ Вінцука Вячорку выклікалі ў пракуратуру Менску ў сувязі з заведзенай крымінальнай справай па факце прэс-канфэрэнцыі, праведзенай 15 кастрычніка лідэрамі Народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс". Тады лідэры апазыцыйных партыяў заявілі аб маджлівых фальсыфікацыях падчас галасаваньня і прадэманстравалі журналістам праекты пратаколаў участковых выбарчых камісіяў з гатовымі лічбамі, а таксама зводныя табліцы па акрузе з разьмеркаваньнем галасоў на ўчастках.

Пракуратура Цэнтральнага раёну Менску завяла крымінальную справу аб паклёпе на прэзыдэнта краіны.

## Засталіся ў мінулым

Камуністычная партыя Беларусі — ня блытаць з Партыяй камуністаў Беларусі — абрала новага лідэра. Ім стала дэпутат Палаты прадстаўнікоў Тацьцяна Голубева. Сярод галоўных задачаў КПБ — "барацьба за ўсталяваньне ўлады працоўнага народу, супрацьдзеяньне капіталізацыі краіны й прыходу да ўлады буржуазіі, умацаваньне і разьвіцьцё беларуска-расейскай дзяржавы, аднаўленьне СССР". А таксама "тлумачэньне антынароднай сутнасьці буржуазных рухаў, недапушчэньне ператварэньня СМІ, кіно, літаратуры й мастацтва ў антыграмадзкую сілу" і, канечне, "падтрымка курсу прэзыдэнта".

## Рыбакоў налавіўся

Былы кіраўнік Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, сумна вядомы выгнаньнем беларускай мовы з тэлебачаньня Ягор Рыбакоў атрымаў адзінаццаць гадоў калёніі строгага рэжыму, канфіскацыю маёмасьці ды забарону цягам пяці гадоў займаць кіруючыя пасады. Рыбакоў абвінавачваўся ў нанясеньні ўрону Белтэлерадыёкампаніі на 213 млн. рублёў. Рыбакоў, як і асуджаная некалькімі тыднямі да гэтага экс-кіраўнічка спраў Галіна Жураўкова, былі прызначэнцамі Лукашэнкі.

## Страйк прадпрымальнікаў

1 сакавіка ў Беларусі пачаўся страйк прадпрымальнікаў, у якім бяруць удзел каля 10 000 гандляроў большасьці буйных гарадоў краіны, якія пратэстуюць супраць увядзеньня абавязковай выплаты падатку на дабаўленую вартасьць, 18% на тавары, якія ўвозяцца з Расеі. На Кастрычніцкую плошчу сталіцы пад лёзунгамі "Не перашкаджайце спакойна працаваць!", "Далоў ПДВ!" выйшлі каля 6000 чалавек. У дачыненьні да арганізатараў акцыі былі ўжытыя жорсткія захады. Кіраўнік аб'яднаньня прадпрымальнікаў "Пэрспэктыва", якая арганізавала страйк, Анатоль Шумчанка атрымаў 10 дзён адміністрацыйнага арышту. Актывістка АГП Марына Багдановіч — 4 млн. 800 тыс. рублёў штрафу ($2200).

2 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы сабралося ўжо толькі 300 чалавек, у Горадні на плошчу Леніна прыйшло каля 1500 гандляроў. Але працягвалі страйкаваць рэчавыя рынкі. Аднак ужо 7 сакавіка частка прадпрымальнікаў узнавіла працу. Бізнэсоўцы настойваюць на сустрэчы з Лукашэнкам ды адмене ПДВ. У адваротным выпадку яны абяцаюць з роднымі й знаёмымі выйсьці 25 сакавіка, на Дзень Волі, на масавую маніфэстацыю.

## Помсты ня будзе

Беларускія тэнісісты ня трапілі ў чвэрцьфінал Сусьветнае групы Кубку Дэвіса. 4—6 сакавіка ў румынскім Брашаве яны саступілі гаспадарам 2:3.

А якія надзеі ўскладаліся на гэты матч! У выпадку перамогі беларусы-б згулялі зь пераможцам пары ЗША — Харватыя. У выпадку перамогі амэрыканцаў матч Беларусь — ЗША прайшоў бы ў Менску. Афіцыйныя СМІ падавалі-б у такім выпадку матч не як спартовы паядынак, а змаганьне сілаў дабра (беларусы) зь сіламі зла (ЗША). Але нічога ня будзе. Зборная ЗША таксама ня здолела прайсьці ў наступны этап. У Лос-Анджэласе амэрыканцы саступілі харватам зь лікам 2:3.

*Уласны карэспандэнт*

# Рады "апазыцыі" растуць

Каму ня верылася, што "аб'едная апазыцыя" – гэта інтэгральная частка існуючага антыбеларускага рэжыму, што яна існуе дзеля нанясеньня шкоды Нацыянальна-Вызвольнаму руху і дзеля заблытваньня беларускай і міжнароднай супольнасьці, што яна ўтвораная і кіруецца спэцслужбамі РБ і РФ, той няхай пачытае "Народную Волю" за 19 студзеня. У нумары ёсьць сюжэт пра прэзэнтацыю ў Менску руху "Защитники Отечества" ("Абаронцы Айчыны"). Цытуем: "У новы рух уваходзяць як былыя, так і цяперашнія супрацоўнікі сілавых структураў: тут прадстаўленыя міліцыянэры, пракурорскія работнікі, а таксама супрацоўнікі КГБ. Як прызнаўся кіраўнік руху Алег Волчэк, адной з найгалоўнейшых задачаў "руху" будзе гарантаваньне бясьпекі кандыдату ад дэмакратычных сілаў на будучых прэзыдэнцкіх выбарах. Акрамя таго, "Защитники Отечества" будуць гарантаваць бясьпеку членам яго ініцыятыўнай групы. Аднак пры гэтым самыя удзельнікі руху ў палітычную барацьбу ўступаць ня будуць.

На прэзэнтацыі былі заўважаныя грамадзка-палітычныя дзеячы: Павел Севярынец, Уладзімер Нісцюк, прадстаўнікі руху "Зубр", а таксама Валеры Фралоў. Кіраўніцтвам самыя сабе абралі мясцовых расейскіх афіцэраў запасу: згаданая Алега Волчэка (старшыня) і намесьнікаў – афіцэра МУС Уладімера Арэстава (той выпадак, прозьвішчы адлюстроўвае прафэсію) ды маёра КГБ Ігара Агурцова. Волчэк у той дзень быў настроены па-баявому: "Мы будзем працаваць у рамках Каардынацыйнай Рады Дэмакратычных Сілаў. Адрозьніваца ад іншых рухаў будзем найперш моцнай дысцыплінай. Мы ня будзем афішаваць усіх сяброў руху, таму што шмат хто зь іх знаходзіцца на дзяржаўнай службе."

Якія ўсё-ж падпольшчыкі, гэтыя "абаронцы" з КГБ і пракуратуры. Газэта паведаміла, што яны нават не пабаяліся зьявіцца на прэзэнтацыйнай прэс-канфэрэнцыі. Цікава, а як гэта "тыя, хто знаходзіцца на дзяржаўнай службе" будуць адначасова займацца апазыцыйнай дзейнасьцю? Мабыць, да сямі вечара пракурор Іваноў з гэбістам Пятровым будуць выконваць антызаконныя загады нелігітымнага рэжыму, а пасьля працоўнага дня ды ў выходныя абараняць айчыну і дэмакратычнага кандыдата. Цікава, колькі нямецкіх грантаў прышлле новай дэмаргацыйнай пазаштатны супрацоўнік КГБ Ганс-Георг Вік?

Сапраўды, наш час непаўторны, а сон розуму нараджае пачвараў. Мы думалі, што такія паваропы сюжэту і дэманстрацыйная камічнасьць бываюць толькі ў эстрадным жанры. А тут – само жыцьцё, гушча "пяцёрак плюс", кааліцыяў і кандыдатаў у прэзыдэнты. Ну дзе такое ўбачыш? Статкевіча уласная партыя выключае са сваіх шэрагаў, а ён ад яе імя кіруе сацыялістычным інтэрнацыяналам і ад кааліцыі "Вольная Беларусь" высоўваецца на кандыдата ў прэзыдэнты. Назіраецца расьпярэзанае жаданьне ФСБ-КГБ давесьці ўсё да поўнага абсурду, каб нашыя людзі ўжо нічога не маглі зразумець і ні ў чым разабрацца.

Але якраз цяпер беларус павінен цьвяроза разабрацца, што ўся гэтая заангажаваная публіка прадстаўляе варожыя нашай дзяржаве сілы й павінна быць выкінутая на сьметнік.

*Валеры БУЙВАЛ*

**Шаноўныя суродзічы!**

**У Бібліятэцы Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" выйшла грунтоўнае дасьледаваньне гісторыка Натальлі Гардзіенкі "Беларусы ў Аўстраліі: да гісторыі дыяспары".**

**Па пытаньнях набыцьця кнігі зьвяртайцеся, калі ласка, на тэлефон у Менску (ЗБС "Бацькаўшчына") +375-17-226-87-37 ці на электронныя адрасы: *zbsb@lingvo.minsk.by*, *hardzijenka@tut.by***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Зь гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

У кастрычніцкім нумары "Беларуса" за мінулы год быў зьмешчаны фрагмэнт кнігі Зьмітра Саўкі пра гісторыю БАЗА. Ніжэй мы падаем фрагмэнт дасьледаваньня, прысьвечаны аднаму з аддзелаў Задзіночаньня. Аўтар будзе ўдзячны чытачам за ўдакладненьні й дапаўненьні, якія можна дасылаць на адрас газэты.

## ДЭТРОЙЦКІ АДДЗЕЛ

Горад Дэтройт асацыюецца найперш з гігантамі аўтамабілебудаваньня: General Motors, Ford Motor, Kreisler ды інш., — гэта сэрца амэрыканскай цяжкой індустрыі. Аднак — насуперак чаканьням — мясцовы аддзел быў не «работніцкім» і не шматлікім, а пераважна «інтэлігенцкім»: дактары, праўнікі. Аддзел быў заснаваны даволі рана — яшчэ ў 1950 годзе, 17 сьнежня, а інкарпараваны 3 лютага 1951-га (тагачасны адрас аддзелу: 1309 Colton Avenue, Detroit 3, Michigan).

Росквіт структуры прыпаў на канец 1950-х — 1970-я гады. Дэтройцкі Аддзел быў сябрам Інтэрнацыянальнага Інстытуту ў Дэтройце (у залі Інстытуту ў 1960-я неаднаразова адзначаліся Сакавіковы ўгодкі ды іншыя беларускія імпрэзы) і ўваходзіў у Раду Нацыянальнасьцяў Штату Мічыган. Для вонкавае рэпрэзэнтацыі выкарыстоўваліся рамкі Беларускага Рэспубліканскага Клюбу, які актыўна супрацоўнічаў з Рэспубліканскім Клюбам у штаце Мічыган. З падачы аддзелу губэрнатар штату Мічыган штогод абвяшчаў дзень 25 сакавіка Беларускім.

Асабліва дзейна дэтройцкія беларусы праяўлялі сябе ў працы мясцовага Камітэту Паняволеных Народаў. Прыкладам, 13 ліпеня 1971 году менавіта тутэйшыя базаўцы Юрка Мазура й Барбара Сажыч езьдзілі ў сталіцу штату Мічыган Лэнсынг да губэрнатара Мілікана атрымліваць праклямацыю на Тыдзень Паняволеных Народаў. А ўжо на самім Парадзе Паняволеных Народаў 17 ліпеня «беларускі» аўтамабіль быў аздоблены транспарантам «Freedom for Byelorussia». Акрамя таго, базаўцы бралі ўдзел у выставе, наладжанай у Дэтройцкай Публічнай Бібліятэцы з нагоды Тыдня.

Аддзел выяўляў выключны дынамізм, і, апроч «тыповай», характэрнай для іншых мясцовых структураў дзейнасьці, часам выступаў з даволі арыгінальнымі ініцыятывамі. Прыкладам, увесну 1965 году тут адзначалі нетыповую, "пазакаляндарную" гадавіну — 20-я ўгодкі новае беларускае палітычнае эміграцыі ў ЗША. Нейкі час намаганьнямі Паўла Куляша (меў у горадзе сваю краму) у мясцовым этэры з розных нагодаў гучалі беларускія радыёперадачы.*

Яшчэ адна яркая асаблівасьць мясцовага беларускага жыцьця — у Дэтройце была свая невялікая тэатральная трупа на чале зь Міколам Прускім. Самаю вядомаю пастаноўкаю дэтройтцаў была купалаўская «Паўлінка», у якой сп. Прускі нязьменна граў Якіма Сароку. Ён жа як прафэсійны выдавец надрукаваў праграмку спэктаклю ў форме брашуркі, у якой пэўную плошчу займала камэрцыйная рэкляма.

За 300 км ад Дэтройту знаходзіцца найвялікшая аглямэрацыя Канады — Таронта. Гэтая адносная блізкасьць, прынамсі паводле амэрыканскіх мерак, спрыяла шчыльнай супрацы, ладжаньню супольных сьвяткаваньняў дэтройцкай і таронцкай (найбольш шматлікаю ў Канадзе) грамадамі беларусаў. Нярэдкім госьцем была таронцкая танцавальная група моладзі «Лявоніха», якая прыяжджала, прыкладам, 28 сакавіка 1971 году, на нованабытую сядзібу, сьвяткаваць Сакавіковыя ўгодкі, 13 ліпеня 1973 году на Тыдзень Паняволеных Народаў: яны танцавалі на Фэстывальным пляцы пад музыку беларускае аркестры Б. Лішчонка Oshawa melody з канадзкай Ашавы.

Бывалі ў Дэтройце беларусы зь яшчэ аднаго канадыйскага гораду — Ўіндзару — на традыцыйным Міжнародным Фэстывалі Свабоды 4 траўня 1965 году. Там таксама выступала танцавальная група з Кліўленду, якую запрасіў да ўдзелу ў Фэстывалі старшыня Дэтройцкага аддзелу Лявон Трусэвіч.

Найбольш стараньняў у жыцьцё аддзелу ўклалі, апроч згаданых вышэй, таксама: Вера Арцюх, А. Дайнэка, А. Катовіч, Марыя Войтанка, Кацярына Мазура.

Сядзіба. Даволі працяглы час аддзел ня меў сваёй пляцоўкі. Аднак 17 студзеня 1971 годзе, дзякуючы фінансавым ўкладаньням Язэпа Арцюха, удалося набыць адпаведны будынак пад царкву й грамадзкую залю (4055 Normany Road, Royal Oak, Michigan 48072; дагэтуль адрас аддзелу быў: 14873 Collinson, East Detroit). 5 верасьня высьвяцілі памяшканьне Царквы Сьвятога Духа БАПЦ. На жаль, са згасаньнем беларускага грамадзкага жыцьця ў Дэтройце — у 1999 годзе будынак прадалі.

**Дарэчы, першая беларуская паўгадзінная радыёперадача ў Дэтройце прагучала 13 кастрычніка 1952 году на хвалях станцыі W-GLB 1400 з 9.30 да 10 гадзіны й нейкі час выходзіла ў этэр кожны другі панядзелак месяца (Божым шляхам. 1952. №51. С. 15).*

Зора КІПЕЛЬ

# Белыя плямы ў беларускай эміграцыйнай літаратуры

*(З архіву)*

Апошнім часам зьявілася некалькі добрых кнігаў і крытычных артыкулаў пра беларускую эміграцкую літаратуру.

Назаву толькі некаторых: Ян Чыквін "Блізкія і далёкія" ў 1997 годзе; Лідзія Савік "Пакліканыя" і "Зваротныя дарогі" Алеся Пашкевіча. Кніга Алеся Баршчэўскага "Творцы беларускага літатурнага руху ў Польшчы" хоць і ня цалкам належыць да эміграцыйнай літаратуры, аднак кранае беларускую літаратуру па-за цяперашняй Беларусьсю. Усе чатыры кнігі выйшлі ў 2001 годзе. Ды нарэшце кнігі, уступныя артыкулы, агляды, камэнтары самага прадуктыўнага й таленавітага літаратураведа беларускага замежжа нашага маладога калегі Лявона Юрэвіча.

Усе гэтыя успомненыя аўтары разглядаючы творы беларускіх эміграцкіх пісьменьнікаў заўважаюць зусім правядлова, што асноўны эміграцыйны матыў – гэта любоў да Бацькаўшчыны, адданасьць ёй, гонар за яе і, да меншай ступені, "туга па Радзіме", як 10 гадоў таму зацеміў быў Барыс Сачанка. Тут хутчэй сум па Радзіме. Варта толькі перагледзіць загалоўкі да аддзелаў у кнізе Лідзіі Савік, як гэта стане відавочна: "Жывём айчынай мы", "Песьню пяем мы адну", "Веру ў народ мой сьмелы", "Жыву і дыхаю, мой Край, Табой".

Тэматыка й жанравасьць беларускай эміграцкай літаратуры шырокадыяпазонная - ёсьць тут і каханьне і эротыка і міфы, ёсьць і гістарычная тэматыка й мэмуары.

Адна толькі тэма-сюжэт – адлюстраваньне жыцьця краіны, у якой па волі лёсу эмігранты апынуліся – амаль адсутнічае. Тут я хачу засяродзіцца на прозе. У паэзіі гэтая тэма парушалася, хоць і вельмі скупа.

Дазвольце мне зьвярнуць увагу й засыгналізаваць будучым літаратурным крытыкам на гэтыя "белыя плямы".

Тэрмін "белыя плямы" я ўжыла тут больш для драматычнасьці, добра разумеючы, што ён можа й ня зусім адпаведны.

Насамперш я пастараюся прааналізаваць гэтую амаль адсутнасьць, а пазьней кароценька разгледзець тыя нешматлікія творы, дзе тэма новай краіны парушаецца.

Вось-жа адна з прычынаў, на маю думку, гэта тое, што беларускі пісьменьнік пакінуў свае глыбокія карані на Бацькаўшчыне. На эміграцыі можа ўжо й пусьціў карэньчыкі, але ня зусім укараніўся, ня зусім пазнаў тую новую краіну, не ўцягнууся ў жыцьцё гэтай краіны. Адна з гарантыяў добрага твору — гэта калі аўтар піша пра тое што ведае, з чым апазнаны, што вычувае сэрцам.

Другое – гэт магчыма й мова. Пішучы па-беларуску нejaк беларуская тэматыка выходзіць *натуральна*, а *іншая* вымушана, нацягнута. Гэта, праўда, ня стрымала шмат якіх добрых сусьветных пісьменьнікаў, але беларускі пісьменьнік на эміграцыі застаўся беларускім патрыётам, і тут я непасрэдна пераходжу да трэцяй гэіпатэтычнай прычыны – гэта страх здрадзіць беларускай ідэі, беларускай тэме, якая была гэтак занядбаная і абставінамі й умовамі і, самае галоўнае, неспрыяльнай, непрыхільнай уладай.

Разгледжу тут творы трох аўтараў.

Кастусь Акула. Раман "За Волю" пісаны ў Таронта, Канада ў 1991 годзе.

Дзея адбываецца далёка перад гэтым, у часы халоднай вайны, у часы шпіёнаманіі, калі вельмі актыўна дзейнічаў гэтак званы камітэт "За вяртаньне на Радзіму й культурныя сувязі з суайчыньнікамі за мяжой".

Лакал – канадыйскі горад Радфорд, дзе ёсьць беларуская група.

Пратаганісты – канадыйцы беларускага паходжаньня са старой і новай эміграцыі, канадыйцы, саветчыкі-энкавэдысты.

Галоўныя тыпы: Алесь Якімовч, малады, сумленны, працавіты беларускі эмігрант. Вера Мак, маладая дзяўчына са старой эміграцыі, якую заангажавалі саветчыкі сачыць за беларускай эміграцыяй. Антон Шпак, беларускі пісьменьнік, і Рыгор Капшун, палітрук-энкавэдыст.

Фабула простая. Штодзённае жыцьцё, праца, адпачынак на прыгожай, маляўнічай канадыйскай прыродзе, грамадзкая праца, інтрыгі "завяртаньнікаў", як іх эмігранты называлі, намаганьні інфільтраваць правакатараў для разьбіваньня жыцьця й дзейнасьці беларускай эміграцыі – царкоўнага, грамадзкага, палітычнага. Асабліва ім быў страшны Антон Шпак, якога савецкія агенты пазьней і замардавалі, хоць тое, фактычна, быў няшчасны выпадак.

Дыялёг насычаны гістарычнымі, грамадзкімі, палітычнымі, літаратурнымі беларускімі праблемамі як на эміграцыі, гэтак і на Беларусі - аж ад 19-га стагодзьдзя. Шмат ангельскіх фразаў, часам з тлумачэньнем, часам не.

Разьвязка – прадбачаная. Вера й Алесь закахаліся. Але напады на Алеся з боку завяртаньнікаў, роспачлівыя лісты ад маці зь Беларусі ускладняюць іх адносіны, тым больш, што Алесь пачынае падазраваць Веру. Але ўсё, урэшце, наладжваецца – Вера растлумачвае сваё непамысное супрацоўніцтва з саветчыкамі і ... каханьне перамагае.

Другі твор - "Браты" Аляксандры Саковіч, выдадзеныя ўпершыню асобнай кніжкай у 1973 годзе, перадрукаваныя ў зборніку "У пошуках праўды" ў 1986 годзе, на першы пагляд, амаль перакліекаецца з Акулавым творам.

Сабіна, новая беларуская эмігрантка ў Амэрыцы, - інтэлігентная дзяўчына - выпадкова спатыкаецца з асобай, якая належыць да Савецкай місіі. Аднак Канада й жыцьцё Сабіны там – гэта толькі фон.

Вялікі экскурс у Беларусь займае амаль 90 адсоткаў твору - успаміны пра Максіма, які незнаёмец-энкавэдыст, гэтак падобны на яго, нагадаў Сабіне пра абставіны, пры якіх яны некалі спаткаліся з Максімам, кахаліся, пра іх жыцьцё на Беларусі, перажываньні ў часы вайны. Зноў, як і ў Акулы, разважаньні пра беларускае палітычнае жыцьцё, гісторыю, літаратуру.

Напрыканцы высьвятляецца, што незнаёмец – гэта брат Максіма, Вадзім, які пайшоў другой дарогай і амаль здрадзіў беларускай справе, зьвязаўшыся з энкавэдыстымі. Аднак па спатканьні з Сабінай ён гэтак пераняўся - сумленьне яго перамагло.

Канчаецца нарыс словамі ... "І назаўтра радыё й тэлебачаньне ў Кліўлендзе паведамілі, што яшчэ адзін савецкі дыплямт папрасіў азылю".

І трэйці аўтар: Уладзімер Глыбінны у зборніку "На берагох пад сонцам", які выйшаў у 1964 годзе, сам назваў адзін разьдзел Амэрыканскія навэлі, улучае два апавяданьні "24-ы гадзіны Боба Браўнэла" і "Зялёны атрамант", абодва пісаныя ў 1956 годзе – сапраўды амэрыканскія навэлі на беларускай мове: і дзея адбываецца ў Нью-Ёрку, і пратаганісты - амэрыканцы. Гэта ўжо чысты амэрыканскі крымінал з выразнай маральлю, што крымінальныя ўчынкі не аплочваюцца. Але нават тут аўтар ня вытрымаў і ўсё-ж уставіў напрыканцы сваёй кароткай навэлі "Зялёны атрамант" беларускі выраз: "Зарабіў, як Заблоцкі на мыле".

Вось гэта колькі твораў зь беларуска-амэрыканскай літаратуры; ці-то бы беларуска-канадыйскай літаратуры, ці-то амэрыканскай літаратуры на беларускай мове, ці-то канадыйскай літаратуры на беларускай мове, што хоць крыху апісваюць сваю новую краіну. І каб нам не заблытацца ў сэмантыцы, скончу на вельмі простай ноце: пакуль будзе беларуская эміграцыя – будзе і эміграцкая літаратура, і хутчэй за ўсё на беларускую тэматыку.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018






# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org

№3 (470)


## Лютаўскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага 13 лютага адбыўся чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку імпрэзы з прамовай аб бягучых падзеях выступіў Старшыня БНФ і Партыі КХП БНФ сп. Зянон Пазьняк. Ён спыніўся на падзеях апошняга часу ў Беларусі, адмыслова разгледзеўшы пытаньні, зьвязаныя з эканомікай. Вялікую шкоду інтарэсам беларускіх прадпрымальнікаў робіць уведзены рэжымам па ўзгадненьні з Расеяй падатак на дададзеную вартасьць, які ёсьць інструмантам уціску і рабаваньня грамадзянаў. Рэжым імкнецца не дапусьціць моцнага нацыянальнага бізнэсу, баіцца яго. Бо менавіта нацыянальны бізнэс стаў у падтрымку дэмакратычных зьменаў ва Украіне і зрабіўся вырашальным чыньнікам у перамозе над пра-расейскімі сіламі у канцы мінулага году. Лукашэнка ўзмацняе ціск на прадпрымальнікаў — апошнюю сацыяльную групу, якая пакуль знаходзіцца па-за непасрэдным кантролем дзяржавы. Ствараецца сытуацыя, каб людзям адзіным выйсьцем стаў выезд зь Беларусі ў Расею, якая разглядае Беларусь як крыніцу танных інтэлектуальных і працоўных рэсурсаў.



Старшыня БНФ сп. Зянон ПАЗЬНЯК асоба вельмі папулярная сярод беларускай моладзі ў Нью Ёрку.

Далей прамоўца спыніўся на няслушных, на ягоную думку, дзеяньнях апазыцыі ў Беларусі, адзначыўшы, што пошукі адзінага кандыдата сёньня паўтараюць памылкі 2001 году. Сп. Пазьняк засьведчыў, што выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах, і падкрэсьліў, што мае права ўважаць сябе за адзінага прадстаўніка нацыянальна-вызвольных сілаў.

Затым сп. Пазьняк перайшоў да разгляду становішча беларускай дыяспары. "Мы ўсе прыехалі зь Беларусі й павінны быць разам, трымацца адзін аднаго, знаходзіць формы арганізацыі, што адпавядаюць зьменам у складзе эміграцыі. У адрозьненьні ад паваеннай эміграцыі, якая не магла вярнуцца на Бацькаўшчыну і пачала ствараць свае структуры на чужыне салідна і пасьлядоўна, сёнешняя эміграцыя мае іншыя ўмовы. Старэйшае пакаленьне адыходзіць, але арганізацыі застаюцца. Таму надзённай патрэбаю ёсьць заахвочваць моладзь пераняць справы й працу, якая робіцца тут ужо больш як паўстагодзьдзя.

Сп. Антон Шукелойць у сваім выступе падкрэсьліў, што у традыцыях залі, дзе праходзіць сход, ёсьць падзеі ня толькі рэлігійныя, але і культурніцкія, і таварыскія. Сярод іх - ушанаваньне ахвярнай працы на карысьць Беларусі й беларускасьці. Працягваючы гэтую традыцыю, прамоўца прысьвяціў выступ грамадзкаму дзеячу яшчэ з часоў Заходняй Беларусі, лекару і паэту др. Мітрафану Смаршчку (паэтычны псэўдонім Бярозка). Др. Смаршчок, якому спаўняецца 90 гадоў, вывучыў мэдыцыну на Віленскім унівэрсытэце, актыўна браў удзел у грамадзкім і культурным жыцьці, супрацоўнічаў у шматлікіх беларускіх выданьнях. Ён займаўся актыўнай лекарскай практыкай і заўсёды ахвярна падтрымлівал грамадзкія справы матар'яльна. Ён таксама вызначыўся як беларускі паэт, працягваючы паэтычныя традыцыі Максіма Багдановіча. Др. Смаршчок і сёньня застаецца дзейнай грамадзкай асобай, актыўна падтрымоўвае беларускія праекты. Сп. А. Шукелойць прапанаваў ушанаваць дзейнасьць др. Смаршчка адмысловай вечарынай.

З сваімі ўражаньнямі ад нядаўняга наведаньня Беларусі выступіў сп. Валеры Дворнік. Ён адзначыў, што людзі ў Беларусі застаюцца не інфармаваныя пра падзеі ня толькі ў сьвеце, але і ва ўласным краі. Шмат людзей незадаволеныя жыцьцём і заробкамі, але ня ведаюць, як зьмяніць становішча. Безумоўна, адным з крокаў было-б пашырэньне інфармацыі для беларускага грамадзтва.

Сп. Мікалай Сагановіч заклікаў прысутных, асабліва моладзь, актыўней удзельнічаць у імпрэзах і паказваць ініцыятыву, імкнуцца стварыць свае, маладзёвыя шляхі да арганізаваньня і кансалідацыі новай эміграцыйнай хвалі.

У разьдзеле "Рознае" прагучэлі аб'явы, прапановы, паведамленьні.

**Віталь ЗАЙКА**

---

Красавіцкі сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца **10 красавіка 2005 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьвятога К. Тураўскага па адрасу: **401 Atlantic Ave, Brooklyn.** Пачатак апоўдні, 12:00, пасьля літургіі ў Саборы. Даезд падземкай A, C да станцыі **Hoyt-Shermerhorn St.**, або падземкай F да станцыі **Bergen St.**

**Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:**

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | |
|---|---|
| В. Едзіновіч | 50 |
| Ю. Лапіцкі | 40 |
| С. Аўдзейчык | 30 |
| Г. Дзям'яненка | 30 |
| А. Міцкевіч | 30 |
| Т. Міцкевіч | 30 |
| А. Наўковіч | 30 |
| Л. Норык | 30 |
| У. Русак | 30 |
| В. Смолка | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Association.*

## Лісты ў рэдакцыю

### Нацыянальнасьведамы антыамэрыканізм

Можа назоў чуламу вуху падасца груваcткім, але ён разам з тым слушна акрэсьлівае праблему: негатыўнае стаўленьне да Амэрыкі, амэрыканцаў ня толькі ісламскіх фундамэнталістаў ад Ірану да Чачэніі, ня толькі Лукашэнкава чынавенства, але й перасвараныя шэрагі сьведамых беларусаў. Выяўленьне іхнай нелюбові/нянавісьці не суправаджаецца ні аргумэнтамі, ні філязофіяй; яно – стыхійна-невытлумачальнае нават, напэўна, для іх саміх. Калі падобным займаюцца на інтэрнэтаўскіх форумах асобы кшталту Ю. Васілеўскага-Чудзіна (пад мянушкаю Асак) ці Адама Глёбуса, тое зразумела й ня нова. Але калі да іх далучаецца газэта "Наша Ніва", робіцца ніякавата.

У апошнім нумары газэты, ад 4 сакавіка 2005 году, была надрукаваная "Амэрыканская гісторыя" за подпісам Алеся Кудрыцкага. У гісторыі апавядаецца пра маладых эмігрантаў зь Беларусі, Сьвятлану й Зьміцера і іхняга народжанага ў Філядэльфіі сына Дэніэла. Маладыя бацькі, пакінуўшы ў машыне немаўлятку, пашпацыравалі ў краму, а па вяртаньні – праз гадзіну, па сьведчаньні паліцэйскіх, што чакалі каля аўто, - былі, натуральна, арыштаваныя. Аўтар заканчвае свой артыкул гэтак: "Зьяжджаючы ў далёкі сьвет зь ціхай Беларусі, варта захапіць з сабою ня толькі надзеі на лепшы лёс, але і веды пра той край, дзе зьбіраешся жыць. Анэкдоты пра дурных амэрыканцаў ведаюць усе, але ж менавіта яны пішуць свае законы, няхай таксама не заўсёды вельмі разумныя".

Абсалютова згодны з сп. Кудрыцкім: трэба ведаць і законы, і мову дзяржавы, дзе плянуеш жыць, працаваць, гадаваць дзяцей; ведаць, як часта дзеці гінуць у падобных сытуацыях праз бацькоўскі недагляд; ведаць, што забаронена дзяцей да пэўнага веку пакідаць ня толькі ў машынах, але і ў хаце адных, без нагляду. "Дурныя амэрыканцы" дбаюць пра сваіх грамадзянаў, дзеля іхнай абароны пішуць свае законы, сочаць за іхным выкананьнем. Шкода, што "разумнага" карэспандэнта хапіла толькі на беспадстаўную гіронію. Зрэшты, як кажа мая суседка, эмігрантка зь Беласточчыны, "Po czym poznac glupiego? Po smiechu jego".

**А. Л.**

Трымаю я перад вачыма нумар газэты й хачу дазволіць сабе невялікі камэнтар. Зазначу, што мова артыкулаў "Беларуса" значна лепшая, чымся мова большасьці дзяржаўных выданьняў у Беларусі. Багата ў газэце і цікавых артыкулаў. Для мяне асабіста прыемна бачыць шмат матар'ялаў па гісторыі й літаратурнай крытыцы. Але адчуваецца нейкі недахоп. Беларускае незалежнае друкарства мае даўнюю традыцыю ствараць літаратуру толькі для інтэлектуальна выхаваных чытачоў. Яно выключае з шэрагу чытачоў людзей, якія мала цікавяцца падзеямі сьвету мастацтва і г. д. Атрымоўваецца, што сярэднестатыстычны беларус не зацікаўлены гэтымі выданьнямі.

Трэба ўзгадаць Яську гаспадара з-пад Вільні, які здолеў выйсьці ў сваёй публіцыстыцы на масавы ўзровень.

Узгадала я даўнія часы вось зь якой прычыны. Нягледзячы на тое, што ў "Беларусе" багата добрых артыкулаў, ці здольная газэта стаць хатнім выданьнем накшталт колішняй "Свабоды", дзе ёсьць цікавае чытаньне і для гаспадара, і для гаспадыні, і для падлетка? У гэтым сэнсе "Беларусу" не хапае той займальнай, лёгкай інфармацыі, якую часам хочацца пачытаць для адпачынку. Прыгледзімся, колькі беларусаў у гэтай краіне сьвядома адчуваюць сваю этнічную прыналежнасьць. Ды ня так ужо і шмат. Беларусы ня маюць умоваў, пры якіх можна захоўваць сваю адрознасьць. Добра, што ёсьць беларуская музыка ды бібліятэкі ў сусьветным сеціве. А вось каб у вольную часіну ўладкавацца на канапе ды адпачыць з крыжаванкаю ці прачытаць што пра навіны мастацтва ці кіно па-беларуску, - тут трэба спачатку знайсьці той матар'ял, Толькі хто будзе шукаць, калі вось працягнуў руку і ўзяў расейскамоўнае выданьне. Робіцца сумна. Пераважная большасьць беларусаў так і не прызвычаілася да роднай мовы ў штодзённым жыцьці. А менавіта гэта фармуе асобу, яе стэрэатыпы й думкі.

Прывяду яшчэ адзін прыклад. Расьце ў маіх знаёмых маленькая дачка, якая нарадзілася тут. Яна ўжо добра балбоча па-расейску. А ці пачуе яна беларускую мову, ці застанецца зь ёю песьня Дзеда Барадзеда, ці адкрые яна кніжку Караткевіча? Я ў гэтым сумняваюся.

Трэба сказаць і пра маладых эмігрантаў, колькасьць якіх значна вырасла за апошнія гады. Дзе могуць яны знайсьці выданьне, якое-б ім было цікавым? Можа "Беларусу" трэба і да іх павярнуцца тварам, пагглядзець на тых, у кім яшчэ сьвежыя ўспаміны аб Беларусі?

Так і не знайшла я адказ на сваё пытаньне: ці трэба друкаваць газэты для інтэлектуалаў ці для "сярэдняга" беларуса, які зможа знайсьці там адлюстраваньне сваіх інтарэсаў. Можа іншыя чытачы ды рэдакцыя падкажуць мне адказ.

**Дыяна ГУМБАР**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Адносіны да падстаўной "апазыцыі"

*Працяг з бачыны 1*

Чарняўскі, Анатоль Гурыновіч (сябры Сойму БНФ). Трэба было закрыць нішу для камуністаў. БСДГ была створаная як партыя адраджэнскага кшталту, і гэтак-ж, як і Фронт, выступала пад Бел-Чырвона-Белым сьцягам.

Удар, які абрынула потым на гэтую партыю агентура, аказаўся для яе замоцным. БСДГ разьбілі на кавалкі. Новыя кіраўнікі (пасьля сьмерці Ткачова) не пагнушаліся пакуражыцца і павялі рэшткі партыі пад новай назвай у дом-муляж І-га зьезду РСДРП, каб прадэманстраваць "перамогу" і паказаць, што партыя пачынаецца ад РСДРП, а не ад БСГ Луцкевічаў (што ёсьць няпраўда і поўны абсурд).

На пачатку 90-х гадоў шырокавядомым і папулярным сваімі беларускімі патрыятычнымі дэкларацыямі было Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў (БЗВ) пад кіраўніцтвам М. Статкевіча. Рэальны вынік дзейнасьці гэтай арганізацыі такі: былі выяўленыя і "спаленыя" патрыятычна настроеныя беларускія афіцэры (выключаныя з войска пры садзеяньні Міністра абароны генэрала П. Казлоўскага). Пасьля гэтага, каб не дапусьціць далейшых правакацый, Беларускі Народны Фронт прыняў рашэньне масава ўступаць у БЗВ. Усе арганізацыі БЗВ апынуліся пад кантролем БНФ. Пасьля гэтага Статкевіч пакінуў БЗВ і перакінуўся ў БСДГ. Далейшыя справы зь беларускай сацыял-дэмакратыяй вядомыя.

Пасьля таго, як былі створаны "дэмакратычныя" партыі, асноўны прынцып КГБ у змаганьні з Народным Фронтам выявіўся ў лёзунгу "Аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў". Фронту назойліва прапаноўвалі аб'ядначца з "партыямі" (сумарная папулярнасьць іх была – 2%) дзеля "перамогі дэмакратыі". Прымітыўнымі дзеяньнямі па "аб'яднаньню" імкнуліся паралізаваць дзейнасьць БНФ (кожная партыйка мела-б свой голас ў прыняцьці рашэньняў) і стварыць нагляд над ягонай палітыкай. Посьпеху гэтакая гульня ня мела, хоць лямант быў вялікі й пастаянны.

Былі ўтвораныя партыі й газэты (ёсьць і цяпер), прыналежнасьць якіх да КГБ, амаль, не хаваецца. Цынікам з асяродзьдзя палітычных ускраін нічога не каштуе залічваць іх у "беларускую дэмакратыю", запрашаць за мяжу на "форумы дэмакратыі" ды іншыя "капусьнікі".

Як сказаў нядаўна кіраўнік адной з такіх партыяў С. Гайдукевіч, "у чэкісцкім асяродзьдзі (паверце, там мой бацька адпрацаваў дзесяткі гадоў) цэняцца людзі не гаваркія, а тыя, хто дзейнічае". (Радыё "Свабода", 23 студзеня 2005 г.)

Назіраючы кандовую мэтодыку КГБ, у нас існавала думка, што ні КГБ, ні Масква ніколі не перамогуць Беларускі Народны Фронт. Становішча пагоршылася, калі нам з С. Навумчыкам прышлося эміграваць, а кіраўніком Місіі АБСЭ ў Менску быў прызначаны ў канцы 1997 г. Ганс-Георг Вік (былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны). Вік прыступіў да справы прафэсійна і ўзяўся за "объединение всех демократических сил" у супрацоўніцтве з КГБ, скарыстоўваючы фінансавыя магчымасьці заходніх арганізацыяў (гранты і т. п.).

У 2-й палове 1997 году быў ажыцьцёўлены міжнародны гэбоўскі праект "Хартыя-97". "Хартыя" выконвала ролю разьмеркавальніка і інфарматара (давала прасеяную інфармацыю ў Інтэрнэт). Праз "Хартыю" (у якой фармальна дзейнічала ўсяго некалькі асобаў) у Беларусь ішлі грошы з Захаду на "дэмакратыю без сувэрэнітэту".

У пачатку 1998 году Ганс Вік і КГБ прыступілі да стварэньня "аб'яднанай апазыцыі" і "перамоўнага працэсу" з рэжымам Лукашэнкі. Рыхтавалі ненацыянальную прамаскоўскую альтэрнатыву Беларускаму Народнаму Фронту. Такі падыход задавальняў і лібэральныя колы Захаду (якія трымалі-б у Беларусі сваю "апазыцыю"), і маскоўскі гэбізм.

Як толькі была аформленая "аб'яднаная апазыцыя", у яе пусьцілі заходнія сродкі, і тут-жа зьявіўся маскоўскі так званы "Праект Чыгір". Пад выглядам альтэрнатыўных выбараў прэзыдэнта плянавалася ліквідаваць Беларускі Народны Фронт, перабраць людзей і структуры пад новую арганізацыю. Найбольш непрыгожую, адкрыта шулерскую ролю адыгрываў у гэтай авантуры Віктар Ганчар.

Афёру ўдалося правальць і захаваць асноўныя сілы Беларускага Народнага Фронту. Але Фронт раскалолі. Вялікая група фронтаўцаў (так званыя "прагматыкі") падтрымала палітыку Ганса Віка і далучылася да "аб'яднанай апазыцыі". Зялёная мамона заваладала душамі гэтых людзей. З гэтага часу расейскамоўны "незалежны" друк у Беларусі ды заходнія лібэралы сталі "заўважаць" толькі "вікаўскую апазыцыю", а Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух – ня бачаць.

Наступныя падзеі паказалі вельмі выразна, што "аб'яднаная апазыцыя" і розныя яе мадыфікацыі (тыпу "пяцёрка-плюс") гэта ёсьць складовая частка лукашэнкаўскага рэжыму, кіруемая спэцслужбамі Масквы й нямецкімі лібэраламі. Адносіцца да яе трэба гэтак-жа, як і да Лукашэнкі зь ягонай групай – зьмятаць з палітычнай сцэны.

За ўвесь час існаваньня гэтай групоўкі і яе імітацыйнай квазіапазыцыйнай дзейнасьці ў яе не было ніколі, нідзе і ніякіх, нават мінімальных, станоўчых палітычных вынікаў. Сем гадоў пустапарожняга, антынацыянальнага існаваньня. Адны правалы, якія яны тупа і пакрыўджана называюць "перамогамі". Імітатары зьбэсьцілі ўсе формы барацьбы, сьцверджаныя Народным Фронтам.

Ня буду разглядаць усё, вазьму толькі некалькі прыкладаў антыбеларускіх справаў так званай "апазыцыі", якія паспрыялі рэжыму. 2001 год, прэзыдэнцкія выбары. Падстаўная "апазыцыя" (у тым ліку "прагматыкі" з БНФ) падтрымлівала падстаўную кандыдатуру былога капээсэўскага функцыянэра У. Ганчарыка. (Таго самага Ганчарыка, члена бюро ЦК КПБ, зь якім Фронт змагаўся на выбарах у 1990 г.) Ганчарык ня мог быць нацыянальнай альтэрнатывай Лукашэнку, і народ гэта бачыў. Яго вылучылі ў той час, калі я ўдзельнічаў у прэзыдэнцкай кампаніі як прадстаўнік Беларускага нацыянальнага дэмакратычнага Адраджэньня. Але вікаўская "апазыцыя" вылучыла "свайго кандыдата", які й паспрыяў "элегантнай перамозе" рэжыму.

17 кастрычніка мінулага году адбыўся незаконны рэфэрэндум (злучаны з выбарамі) аб "вечным тэрміне" прэзыдэнцтва Лукашэнкі. "Апазыцыя" сьведама выступіла ў ролі загоншчыка людзей на незаконнае галасаваньне. Рэфэрэндум быў незаконны, супярэчыў Канстытуцыі. Народ не павінен быў падтрымліваць незаконныя дзеяньні ўлады, ня мусіў ісьці на выбарчыя ўчасткі й спрыяць фальсыфікацыі галасаваньня. Усё гэта тлумачылі. І тым ня менш, яны несумленна зазывалі людзей лёзунгам "Скажы сваё НЕ Лукашэнку", добра ведаючы пра двулікасьць і марнасьць такога ашуканства. (Самыя-ж цьвердзілі, што галасаваньне будзе сфальсыфікаванае, але заклікалі й ішлі.)

Гэта вельмі нізкія паводзіны. Пляваць ім на Беларусь і на народ, калі загадалі з Бэрліну і гукнулі з Масквы. Не народ-жа ім плаціць гранты. Гэта ўвогуле не палітыкі, а прыстасаванцы сыстэмы, якія навучыліся паразітаваць на рэжыме і на гульнях у "апазыцыю". Гэта палітбізнэсмэны на народнай бядзе. Калі пераможа народная Беларусь (а яна пераможа!), некаторыя з гэтых "апазыцыянэраў" пойдуць пад суд, разам са злачынцамі рэжыму.

Антыадраджэнцкая дзейнасьць падстаўной апазыцыі ёсьць па сутнасьці антынацыянальная. Адзін з мэтадаў інфармацыйных паводзінаў гэтых асобаў і так званых "незалежных" СМІ – гэта замоўчваньне вынікаў і перакручваньне падзеяў беларускай нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1991 году. Найперш – выкрэсьліваньне з грамадзкай сьвядомасьці іменаў дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня і гістарычных дасягненьняў гэтай франтаўскай Апазыцыі. Найгалоўнейшае зь іх – аднаўленьне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Менавіта праз цяперашнюю вікаўскую "апазыцыю" праштурхоўваецца фальсыфікатарскі й зьняважлівы для беларусаў тэзіс, што нібыта "суверэнітэт зваліўся беларусам на галаву". (Як быццам не было мужнага і эфэктыўнага змаганьня БНФ і яго дэпутатаў.) Нагадаю, што ў гісторыі Беларусі XX-га стагодзьдзя былі дзьве вызначальныя падзеі для існаваньня нацыі: гэта Акт 25 Сакавіка 1918 году і вяртаньне дзяржаўнай незалежнасьці (на аснове ідэалаў 25 Сакавіка) змагарамі БНФ у 1991 годзе. Гэтая перамога была ўнікальнай "бітвай пад Воршай", пра якую будуць зь вялікай пашанай пісаць і гаварыць дасьледчыкі будучай вольнай Беларусі. Цяпер-жа мы маем справу з палітыкай непрыяцеляў беларускай нацыянальнай ідэі й з паводзінамі нікчэмных прадажных людзей.

Асобы, якія цяпер замоўчваюць і зьневажаюць нацыянальна-дэмакратычную рэвалюцыю, Фронт і Адраджэньне, тады, у 90-х, таксама не былі прыхільнікамі незалежнасьці й Беларускай ідэі. Вядомая, напрыклад, нізкая роля Д. Булахава ў антызаконнай забароне рэфэрэндуму 1992 году аб першых вольных выбарах. Прэзыдэнцкая кампанія Лукашэнкі ў 1994 годзе была пабудавана на ідэі рэстаўрацыі савецкага мінулага ды зьневажэньні незалежнасьці й нацыянальных каштоўнасьцяў. Але такія людзі, як А. Лябедзька, Д. Булахаў, В. Ганчар, Л. Сініцын і інш., падтрымлівалі ўсё гэта і былі ў ягонай групе. Пасьля выбараў Лукашэнка назваў Лябедзьку сваім прадстаўніком у Вярхоўным Савеце, і кожны дэпутат ВС 12-га скліканьня памятае, як паслухмяна і аддана Лябедзька выконваў лукашэнкавы "ініцыятывы" (прасоўваньне закону пра "вертыкаль", блякаваньне прыняцьця закону Аб выбарах па прапарцыйна-мажарытарнай сыстэме, стараньні аб зьняцьці забароны на дзейнасьць ВЛКСМ і г. д.).

Ці вось "сьвежы" прыклад – чарговая імітацыя дзейнасьці – так званая "антыядзерная ініцыятыва" экс-дэпутата лукашэнкаўскай "палаты" У. Парфяновіча. "Ініцыятары" робяць выгляд, што не існуе ні нацыянальнай гісторыі, ні гісторыі антыядзернага змаганьня ў Беларусі, ні вынікаў змаганьня БНФ супраць пабудовы АЭС. Пры бліжэйшым разглядзе такіх падыходаў заўсёды высьвятляецца, што тут не прафанацыя дылетантаў, а менавіта пазыцыя непавагі да гістарычнага змаганьня нацыі за сваё народнае існаваньне.

Коратка нагадаю ўжо вядомае. У другой палове 80-х г. г. зьявіўся таемны плян камуністычных партыйных структураў аб пабудове атамнай электрастанцыі (тыпу Чарнобыльскай) на тэрыторыі Віцебскай вобласьці. Улады хацелі падрыхтаваць дакумэнтацыю без афішаваньня, каб паставіць насельніцтва перад фактам. Плян гэты ў 1988 годзе выявіў і раскрыў грамадзкасьці Сяргей Навумчык. Ён стварыў ініцыятыўную групу (якая стала суполкай БНФ) і сабраў некалькі дзясяткаў тысячаў подпісаў супраць будаўніцтва АЭС. Зацятае змаганьне ператварылася ў народнае рушэньне і скончылася перамогаю фронтаўцаў.

Гэта была (тады, у 1988 г.) адная з першых рэальных перамогаў актывістаў БНФ і адзіная (!) перамога над плянамі ядзернай мафіі АЭС у тагачасным СССР.

Дадам, што антыядзерная дзейнасьць потым стала складовай часткай вялікай фронтаўскай ініцыятывы па раскрыцьці праўды аб наступствах Чарнобыля ў Беларусі, якая была засакрэчана КПСС. Дарэчы, у 1990 г. па прапанове С. Навумчыка нам (дэпутатам БНФ у ВС) удалося ўключыць у Дэклярацыю аб Дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі й адстаяць тэзіс аб безьядзернасьці Беларусі.

Чаго вартыя цяперашнія "ініцыятывы" квазі-апазыцыі, не абапертыя на нацыянальныя каардынаты, і чаму яны без каардынатаў – зразумела.

Аснову "кіруемай апазыцыі" складаюць людзі з першапатковай групы Лукашэнкі, тыя, якія дапамагалі яму нішчыць усё беларускае, праштурхоўваць рэфэрэндум аб забароне гэрбу "Пагоня" ды беларускага нацыянальнага сьцягу, аб "двухмоўі" і т. п. Гэта найперш А. Лябедзька, В. Ганчар (зьнік бязь вестак), Д. Булахаў, У. Нісьцюк, А. Фядута, Л. Сініцын, М. Чыгір, М. Марыніч ды інш. Ніхто зь іх ня мае маральнага права пасьля ўсяго, што яны натварылі, балатавацца ні на выбарныя пасады, а зь некаторымі яшчэ трэба ўвогуле разабрацца наконт іхняга ўкладу ў справу рэжыму "чэснага прэзыдэнта".

Апошні выверт падстаўной "апазыцыі" – знайшлі кандыдатуру на ганчарыка (гэта значыць на прэзыдэнта Беларусі ад групоўкі "пяцёрка плюс"). Ім назвалі па прапанове былых фронтаўцаў кіраўнік камуністаў С. Калякін. Гэта той самы Калякін з былой райкамаўскай намэнклятуры, які ў 90-х гадох быў старшынём Савецкага райвыканкаму Менску, які ярасна супрацьляўся ўрадавай палітыцы незалежнай Беларусі ў адкрыцьці новых беларускамоўных школаў (ужо ня кажам пра яго антыфронтаўскую пазыцыю).

– Народ, відаць, не падтрымае, – сказаў пра гэтага "кандыдата" яшчэ адзін казак палітычнай бязглуздзіцы (Ю. Хадыка), – а БНФ (гэта ён пра сябе) – падтрымае.

Чакаецца вылучэньне іншых ганчарыкаў.

Сорамна мне, што гэтыя людзі некалі былі побач са мною. Брыдка глядзець на іхную палітычную дэградацыю.

* * *

Цяпер у асяродзьдзі "апазыцыі" й заходнімі змагарамі за "правы чалавека" безь Беларусі шмат гаворыцца пра прысуд М. Марынічу. Сапраўды, прысуд несувымерны, а справа выглядае сфабрыкаванай.

Марыніча я ведаю ўжо 25 гадоў. Ён пакідаў у мяне ўражаньне прыстойнага чалавека, але быў тыповым прадуктам савецкай бюракратычнай сыстэмы й ніколі "не выпадаў з абоймы".

Марыніч прымаў удзел у гэбоўскай камбінацыі ў Вярхоўным Савеце (1994 г.) па прызначэньні кіраўніка так званай "камісіі па карупцыі" (гэта пачатак так званага пляну "Лукашэнка"). На кіраўніка камісіі камуністычна-намэнклятурнай большасьцю спачатку быў прапанаваны М. Марыніч. Ён пагадзіўся. Потым, калі ў розыгрыш увялі Лукашэнку, Марыніч раптам выступіў і ўзяў самаадвод (выглядала ўсё штучна), а С. Шушкевіч, улучыўшы момант, вельмі ўмела (проста памайстэрску) прапанаваў кандыдатуру Лукашэнкі, за якую большасьць тут-жа прагаласавала, хіхікаючы, каб потым пацешыцца з дурноты (Лукашэнку ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня ўсур'ёз не ўспрымалі). Але "потым" – усё склалася ня сьмешна.

Марыніч – адданы намэнклятурны выканаўца, свой сярод сваіх. Лукашэнка зрабіў яго Міністрам па зьнешне-гандлёвых сувязях. Аднак, неўзабаве Лукашэнка западозрыў свайго міністра, і Марыніч апынуўся амбасадарам у Латвіі. Там, пакрыўджаны, ён адчуў іншы ўлыў і адважыўся на тое, у чым яму адмовілі ў 1994-м (на прэзыдэнцтва). Пачалася гульня ў "апазыцыю". Лукашэнка паставіўся да Марыніча сур'ёзна, і, па звычцы сваёй, засадзіў хаўрусьніка ў камэру.

Цяпер журналісты й іншыя "свае" людзі ўзмоцнена лепяць зь яго чарговую палітычную "цукеру", альтэрнатыву Лукашэнку, змагара з рэжымам, ахвяру "тыраніі" й г. д. Хаця тут – банальная грызьня і "разборка" ў лягеры хаўрусьнікаў. Для Беларусі "што той салдат, што гэты" – адно і тое. Не абходзяць іх ні сьцяг, ні народ, ні нацыя, ні беларуская культура, ні мова, ні зямля, ні незалежнасьць. Гэтыя людзі па звычцы глядзяць на Маскву. Самае рэальнае, на што здольная гэтая катэгорыя старой савецкай намэнклятуры, – гэта на перасьмеркаваньне беларускай уласнасьці разам з расейскімі фірмамі, пад выглядам рынкавых рэформаў беларускай эканомікі.

Так што сядзець, відаць, Марынічу ў лукашысцкай турме ды адсіджваць. Хіба што мы яго вызвалім, перамогшы навалу.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Новая кніга




*У Менску ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", заснаванай летась Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету, выходзіць чарговы, чацьвёрты па ліку, том — **"Мэмуары на эміграцыі" Лявона ЮРЭВІЧА**. Гэта — дапоўненае, перапрацаванае БІНІМаўскае выданьне "Беларускай мэмуарыстыкі на эміграцыі" 1999 году. Новая структура кнігі дала й новы назоў.*

*Прадмова да кнігі, напісаная вядомым навукоўцам з Санкт Пецярбургу **Міколам НІКАЛАЕВЫМ** прапануецца вашай увазе. Кнігу можна замовіць праз ЗБС "Бацькаўшчына" тэл. **226-83-37**, факс **289-31-94**, **zbsb@lingvo.minsk.by**.*

Гэтая кніга прысьвечаная памяці аднаго пакаленьня з тых, каго энцыкляпэдыя Бракгаўза называе «асобамі, якія па той ці іншай прычыне пакінулі сваю бацькаўшчыну з мэтай асталявацца на чужыне», а Максім Багдановіч да свайго — і гэтых асобаў — імя напісаў: «Не рассталіся-б мы з родным краем, каб было дзеля нас у ім хлеба...».

Прыбіраецца, патроху адыходзіць пакаленьне эмігрантаў, якое зачапіла Другую Сусьветную вайну. Зачапіла маладосьць, сталы ўзрост, дзяцінства. Адыходзячы, старэйшыя занепакоеныя: «Ці застануцца ў Беларусі знакі ад цэлага нашага жыцьця?», «Што будуць ведаць пра нас нашчадкі»? Тым часам, ніколі ніхто лепш не раскажа пра іншых, як сам чалавек пра сябе. Няма лепшых сьведчаньняў і дакумэнтаў жыцьця і дзейнасьці чалавека, чым ягонае ўласнае сьведчаньне. Кніга ўспамінаў — найлепшы помнік і эпосе, і аўтару, асобны артыкул-успамін — мэмарыяльная шыльда. Успаміны беларусаў-эмігрантаў «пакаленьня Другой Сусьветнай вайны» руплівa зьбірае, дбайна захоўвае і ўважліва вывучае Лявон Юрэвіч. «Бібліятэка Бацькаўшчыны» дае магчымасьць беларускаму чытачу пазнаёміцца з другой часткай ягонай працы над vita memoriae (успамінамі жыцьця). Кніга зьяўляецца лягічным працягам папярэдніх работ спадара Юрэвіча, прынамсі, манаграфіі «Літаратурны рух на эміграцыі», артыкула «Сьмерць у люстэрку беларускай літаратуры» і шэрагу бібліяграфічных даведнікаў. У выглядзе бібліяграфічнай інфармацыі тут упершыню ўводзіцца ў навукова-дасьледчы зварот агромністае нявыкарыстанае багацьце беларускіх эміграцыйных мэмуараў, якое можа стаць і стымулам, і асновай новых грунтоўных дасьледаваньняў. А як прыклад рознага кшталту мэмуараў і як самакаштоўная вартасьць, поўнымі тэкстамі ў гэтым томе друкуюцца два аўтары — Уладзімер Дудзіцкі і Вольга Таполя, кожны па-свойму цікавіць і ўражвае.

Першае знаёмства з кнігай паклікала ўспамін аб Пабудове N 28.

Сьпякотны ліпень 1975 году. Архэалягічная экспэдыцыя пад кіраўніцтвам Леаніда Побаля капае старажытнае паселішча каля вёскі Тайманава ў Быхаўскім раёне. У раскопе паўзямлянкі VII—VI стагодзьдзяў да новай эры... прастакутныя па форме хаты нашых прашчураў. Хаты пустыя і засыпаныя пяском ужо больш як дзьве з паловай тысячы гадоў. Асьцярожна выбіраем рыдлёвачкамі і маленькімі шуфлямі запаўненьне паўзямлянак: "чытаецца" спарахнелае бярвеньне сьценаў, астатняе — чысты пясок, знаходак няма. Сюрпрыз чакаў у апошняй пабудове, якая на генэральным пляне паселішча была пазначаная № 28. Спачатку яе аконтурылі па ўзроўні тагачаснай паверхні, потым пачалі выбіраць запаўненьне. Знаходкі пайшлі вельмі нечаканыя: цэлыя (!) збанкі — іх аж сем! Усе ляпныя (ганчарнага кола яшчэ ня ведалі), цалюсенькія, стаяць радочкам уздоўж усходняй сьцяны хаты, справа ад уваходу і перакуленыя донцам дагары. Прычым спачатку расчысьцілі толькі тры — чысьцілі доўга, асьцярожна, нажом і пэндзлем. Падняўшы гэтыя тры, убачылі, што яны пакрываюць яшчэ тры, меншыя памерам, таксама перакуленыя збанкі. Потым натрапілі і на сёмую пасудзіну — маленькі гліняны збаночак — як цацачны. Такія пасудзінкі часам знаходзяць у Літве і Беларусі, але былі падобныя і ў старажытных эгіпцянаў — у іх зьбіралі сьлёзы, наплаканыя ў час пахавальнай працэсіі, і ставілі разам з нябожчыкам.

Прачытаўшы кнігу Лявона Юрэвіча «Мэмуары на эміграцыі», вярталася ў думках да тых людзей, што пакінулі ў Тайманаве сваю хату: прыбраліся, акуратна збаночкі паскладалі і... зьніклі ў часе. Яны былі непісьменныя, і іх мэмуар, рэштачка іхняга жыцьця — гэтыя перакуленыя збаночкі.

Беларуская мэмуарыстыка на паперы пачалася ў XVI і пашырылася ў XVII стагодзьдзі. Успаміны ўсяго жыцьця ці аднае вайны, далёкага падарожжа ці мясцовых закалотаў пакінулі наваградзкі падсудак Хвёдар Еўлашэўскі, нясьвіжскі князь Мікалай Радзівіл, берасьцейскі поп Афанасі Філіповіч, шляхціцы Багуслаў Маскевіч, Адам Каменскі Длужык, Ян Цадроўскі... Творы іх часта заставаліся ў рукапісе, але часам рабіліся бэстсэлерамі эўрапейскай мэмуарыстыкі. Так у 1601 годзе ў езуіцкім калегіюме ў Брунсбэргу была выдадзеная на лацінскай мове кніга Мікалая Хрыстафора Радзівіла Сіроткі «Hierosolymitana peregrinatio...» («Вандроўка ў Ерусалім») — мэмуар пра падарожжа зь Нясьвіжа ў Сьвятую Зямлю. У 1603 годзе зьявіўся пераклад на нямецкую, а ў 1607 — на польскую мову. У 1614 годзе лацінскі варыянт быў перавыдадзены ў друкарні Плянтэнаў у Антвэрпэне. Пазьней былі зроблены пераклады на расейскую мову — захаваліся 13 сьпісаў XVII — першай трэці XVIII ст. Частка тэксту «Вандроўкі ў Ерусалім...» зрабілася вядомай чытачу праз «Хроніку Эўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні й кнігу ўкраінца Іанікія Галятоўскага «Лебедзь са сваім пер'ем...».

XVIII і XIX стагодзьдзі далі, па падліках Адама Мальдзіса, больш за 200 мэмуараў беларусаў на славянскіх (беларускай, польскай і расейскай) мовах і яшчэ некалькі дзясяткаў на іншых эўрапейскіх. Сярод аўтараў вылучающца постаці берасьцейскага кашталяна Марціна Матушэвіча і шляхціча Міхала Залескага зь Лідчыны, віцебскага стольніка Казіміра Сарнецкага, пінчука Францішка Шырмы, канцлера Расейскай імпэрыі, славутага кампазытара Міхала Агінскага і віцьбляніна, юрыста і рэвалюцыянера Маўрыкія Маркса, мастака Эдварда Паўловіча.

Нядаўна мінулае XX стагодзьдзе дало новую хвалю мэмуараў. Надрукаваныя ўспаміны ўдзельнікаў лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцыяў і Другой Сусьветнай вайны, беларускіх літаратараў і мастакоў, партызанаў і ваеначальнікаў. Выдавецтва «Беларусь» з 1971 году да канца 1980-х выпускала сэрыю «Мэмуары». Але што да мэмуараў эмігрантаў як усходняга накірунку (тых, хто выехаў у рэспублікі былога СССР), так і накірунку заходняга — яны засталіся для нас terra incognita, невядомай краінай. Са зьяўленьнем кнігі Л. Юрэвіча значная частка гэтай цемры асьвятлілася. Дзякуючы выдадзеным тэкстам і навуковаму дасьледаваньню аўтара, кожны наступны чытач «Мэмуараў на эміграцыі» зможа ўбачыць мінулае і спасьцігнуць яго праз свой досьвед, атрымае больш магчымасьцяў для разуменьня сёньняшняга Захаду і сёньняшняй Беларусі. Ідавочнай — на кантрасьце — робіцца нявывучанасьць мэмуарыстыкі «ўсходняй» беларускай эміграцыі, хоць, напрыклад, толькі ў Санкт-Пецярбургу ў новым тысячагодзьдзі зьявіліся важныя для гэтай тэмы ўспаміны генэрала-сувязіста Віталя Кананюка і прафэсара-мэдыка Мікалая Гурына.

Надрукаваная ў «Мэмуарах на эміграцыі» бібліяграфія зьмяшчае 27 назваў асобных кнігаў, успамінаў і 171 мэмуарны артыкул. Багацьце сабранага матэрыялу Лявон Юрэвіч навукова сыстэматызаваў, вылучыўшы жанры эміграцыйнай мэмуарыстыкі, сярод якіх называе нэкралёгі, аўтабіяграфіі, інтэрв'ю (гутаркі), ліставаньне, анкеты, запіскі й натоўкі, выступленьні, прамовы, дзёньнікі, уласна ўспаміны. Шмат з таго, што прапанаваў дасьледчык — новае слова ў беларускім літаратуразнаўстве. Асабліва важным падаецца абгрунтаваньне вартасьці «ідэалізаваных падсумаваньняў жыцьця» — нэкралёгаў — як літаратурнага жанру, і як гістарычнай крыніцы, і, па словах аўтара, «сацыялягічнага інструмэнту». Прынамсі, з 776 улічаных Л. Юрэвічам нэкралёгаў мы заўважылі толькі два, прысьвечаныя шляхетным тытуляваным асобам, менавіта лорду Гарвеку і аднаму з Энгельгардаў. Пераважная большасьць астатніх апавядаюць аб сьвятарах, настаўніках, музыкантах, іншых «простых людзях». [..]

Публікацыя „Мэмуараў на эміграцыі" безумоўна актывізуе цікавасьць да самой эміграцыі і наблізіць чытача да разуменьня тых людзей, якія на працягу дзесяцігодзьдзяў захоўвалі нацыянальную ідэю, зьберагалі гістарычную і культурную спадчыну. Няма сумненьня, што кніга таксама працягне дыялёг паміж дзьвюма неад'емнымі часткамі беларускага народу: той, якой пашчасьціла пражыць жыцьцё на зямлі сваіх продкаў, з аднаго боку, і дыяспарай — з другога

***Мікола НІКАЛАЕЎ***
***доктар гістарычных навук***

# Пераклад

**Амару Хаяму (1048-1122)**, паэту, філёзафу, можна сказаць, пашанцавала: у Менску яго перакладаў Рыгор Барадулін, у Каліфорніі — Уладзімер Клішэвіч, у Празе — Максім Шчур. Да гэтай пачэснай справы далучыўся й Нью Ёрк: **Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**, перапыніўшы працу над сваім раманам "Крывавы памол" (першая частка якога ў Беларусі амаль распрададзеная) і канцэртнай дзейнасьцю, даслаў у рэдакцыю свае пераклады паэта, творчасьцю якога захапіўся ў 13 гадоў, а пачатковыя спробы абеларушчваньня таджыкскага клясыка зрабіў у 20. Тым самым дасягнуты дзьве нацыянальна-сьведамыя мэты: больш сусьветнай літаратуры па-беларуску, менш песеннай расейшчыны за нашым сьвяточным сталом! Рубаі — гэтакназываецца форма вершаў Хаяма — выдатна прыдаецца ў якасьці тостаў, пажаданьняў ды проста як спадарожнік добрага баўленьня часу.

Пляжыць нашыя пляны жыцьцё праз гады,
Пройдзе час, а па ім прыйдзе скон, як заўжды,
Не сьпяшайся, прысядзь на траву пад якую
Ляжаш ты, і сьпяшацца ня будзе куды.

* * *

І чаму гэта творца Сусьвету й людзей
Нам ня даў на няўмёрнасьць ніякіх надзей?
Калі мы дасканаласьць — навошта канаем?
Калі не дасканаласьць — то хто ліхадзей.

* * *

Калі будзеш адно асалодаў шукаць
Піць віно, слухаць чанг, прыгажуняў кахаць —
Прыйдзе час — давядзецца з усім разьвітацца.
Так, жыцьцё нібы сон. Ды ня век-жа нам спаць!

* * *

Мерцьвяку ўсё адно: што імгненьне — што час,
Што вада — што віно, што Багдад — што Шыраз.
Поўня, сход, маладзік і вятох над зямлёю
Будуць вечны свой шлях паўтараць і бяз нас.

* * *

Не давай залюляці сябе пахвалой —
Лёс занёс ужо меч над тваёй галавой
Ды атруту сабраў. Як ні соладка ў славе
Сьцеражыся атруціцца звыклай халвой.

* * *

Сьмерць ня страшная мне, не крыўдую на лёс,
Не шукаю суцехі ў абшарах нябёс
І душу, што пазычылі мне не на доўга
У прызначаны момант вярну я бяз слёз.

* * *

Лепей стаць жабраком, красьці, зьведаць біды,
Чымся быць салупайлам агідным заўжды,
Лепей косткі грысьці, чым спанадзіцца смачным
За аквітным сталом у прыўладнай брыды.

* * *

Шэйх распуснай казаў:
"Ты, аблудная, п'еш,
Сваё цела ахвочым наўсьцяж прадаеш!"
"Я такая, — сказала распусная, — праўда,
Ты ці той, за каго мне сябе падаеш?"

* * *

Што за сэнс перад прышлым сябе замыкаць,
Што за сэнс паміж злом і дабром выбіраць.
Неба кідае косьці на сьлепа, як выйдзе,
Штоб ні выпала, трэба пасьпець прагуляць.

* * *

Ты ня вер, калі нехта распусьціць далдонь
Быццам п'яніцу ў пекле чакае вагонь.
Калі месца каханым і п'яніцам — пекла,
Рай у момант паўстане пустым як далонь.

---

**ЖАРТ:**

— Што такое санкцыянаваны мітынг па-беларуску?

— Гэта мітынг, да ўдзельнікаў якога будуць ужытыя санкцыі.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Наша фанатэка

## Тактыка культурнага бандытызму

Ужо болей за год у ґазэце "Беларус" рэгулярна друкуюцца рэцэнзыі на сьвежыя беларускія музычныя выданьні, ёсьць у іх нават згадкі пра відэапрадукты айчыннага шоў-бізнэсу – кліпы, канцэртовыя запісы, тэматычныя падборкі і г.д. У чытача, пэўна, складаецца ўражаньне нейкага нечуванага беларускага раю ў гэтай сфэры? Але прыяжджаюць у Беларусь госьці з ЗША, Польшчы, Нямеччыны і... гэта праўда, на кожным аўтобусным прыпынку сустракаюць музычныя шапікі з даволі таннай (для іхняй кішэні) прадукцыяй. Вось толькі што бачаць яны: Алсу, Тату, Нану ды іншую расейскую папсу. Нічога беларускага ў іх не было ніколі, хіба толькі фрагмэнтарна палёжвалі сярод гэтай акупацыйнай мас-культуры зоркі здрадніцкай творчасьці ("Леприконсы", "Ляписы" ды нават і процьма іншых сучасных "Песняров", якія роднай мовы нават ня чулі).

Дык пра што-ж тады піша ґазэта "Беларус"? Няўжо ўсе гэтыя рэцэнзыі – міт?

О! У гэтай краіне пад назвай Беларусь толькі самы напорысты энтузіяст здольны знайсьці што-небудзь беларускае. Дый тое, калі аб'едзе ўсе сталічныя крамы (па-за сталіцай пошук будзе значна цяжэйшы).

Цікавая рэч: ёсьць у кожнай буйной музычнай краме побач з замежнымі выканаўцамі адмысловы аддзел "Айчынныя выканаўцы". Сярод тысячаў найменьняў прадукцыі... зусім ня нашай айчыны можна знайсьці й нешта сваё. А каб розныя нацыяналісты ня скардзіліся на непрыкметнасьць фондаў, некаторыя крамы (напрыклад, "Мистерия звука" на Нямізе) робяць гэткі куток беларуса: на асобнай паліцы ў атачэньні пучка саломы, лапцёў і бутэлькі гарэліцы стаіць кампакт-дыск якой-небудзь "Крамбамбулі". Прыкметна? Ну а што-ж вы яшчэ хаціце?

Нейк зайшоў я ў краму "Mega-hit" у адным з падвалаў менскай вуліцы Сурганава. Зычлівы гандляр хуценька спанатрыў рэдкага пакупніка і ветліва прапанаваў:

– Што вам прапанаваць?

– Ды наўрад ці ў вас ёсьць тое, чаго я шукаю, – кажу. – Што-небудзь беларускае.

Ён падвёў мяне да гэткага-ж кутка беларуса, дзе ўжо без лапцёў і саломы, але сціпла палёжвалі пяток узорчыкаў маёй калекцыі (толькі ў мяне іх шматкроць болей).

– Ды я ўсё гэта маю, а новага нешта ня бачу. Мо ёсьць у вас гэты нашумелы наш блёкбастар "Анастасія Слуцкая"?

Блёкбастар быў, але толькі на расейскай мове. Аднак, на маё прабачаньне, што памылкова завітаў да іх, гандляр цьвёрда паабяцаў, што неўзабаве будзе і на беларускай.

Стаў я туды заходзіць рэгулярна, але пацягнуліся дні, тыдні, месяцы... Вось ужо ў дзяржаўнай прэсе напісалі пра выхад беларускага перакладу беларускага фільму (які абсурд!), а "Mega-hit" усё ня мог мяне парадаваць. Урэшце, парадаваў толькі адрасам фірмы, якая паабяцала ім паставіць беларускі варыянт. Патэлефанаваўшы на гэту фірму я даведаўся, што яна ўжо даўно падрыхтавала й выдала беларускамоўную "Анастасію Слуцкую", і ўвесь тыраж накіраваны ў "Mega-hit" і прададзены. Вось такая дэтэктыўная гісторыя атрымліваецца ў Беларусі з роднай мовай..... А "Mega-hit" тым часам шуфляваў ня першую тысячу касэтаў, дзе мангола-татарская захопнікі лёгка гавораць па-татарску, немцы – па-нямецку, а старажытныя беларусы... па-расейску.

Зрэшты, не сумуйце: хоць пасьля канцэрту на плошчы Бангалёр у Менску шэраг беларускіх гуртоў увогуле звольненыя з філярмоніі, забаронены ў тэле- й радыёэтэры ды нават канцэрты ім адзін за другім зрываюць, беларускае жыцьцё ў Беларусі не спынілася, бо беларускім яно і было ў недзяржаўным фармаце. І таму нават калі рэкі пацякуць у гору, мы будзем і надалей працягваць рубрыку "Наша фанатэка", каб распавядаць пра іншых беларусаў, недзяржаўных, а значыць і незалежных ад акупантаў.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

# Пётра ШЫРКОЎСКІ
## (04.09.1925 - 23.12.2004)



Нарадзіўся 4 верасьня 1925 году ў вёсцы Новы Сьвержань, Стоўбцаўскага павету, вучыўся ў Нясьвіжскай гімназіі, у часе Другой сусьветнай вайны трапіў у Нямеччыну, служыў у польскім войску пад брытанскай камандаю.

Пасьля вайны прыехаў у Англію і пасяліўся ў горадзе Манчэстэры, дзе ад самага пачатку быў чынным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі і Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў, належаў да Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Памёр неспадзявана 23 сьнежня 2004 году, пакінуў у смутку жонку Ганну, братоў і сясьцёр у Беларусі.

Пахаваны 5 студзеня 2005 году на могілках Судэрн у Манчэстэры.

Няхай будзе яму лёгкай ангельская зямелька і сьніцца Беларусь, якую ён так моцна любіў.

*Галоўная Ўправа ЗБВБ*

*У сакавіку сёлета ў ЗША адбудуцца дабрачынныя канцэрты славутага сьпевака зь Беларусі, лідара гурта NRM*

## ЛЯВОНА ВОЛЬСКАГА

***15 сакавіка** пройдзе канцэрт у штаце Дэлавэр, Rehoboth Beach (інфармацыя на сайце **www.slyhap.com**).*

***17 сакавіка** — канцэрт у Кліўлендзе, Агаё, інфармацыя ў сп. Сяргея Раманюка (E-mail адрас: **sramaniuk@ohiochest.com**).*

***20 сакавіка** — выступ на сьвяточнай імпрэзе БАЗА у Нью Брансвіку (штат Нью Джэрзы, інфармацыя на сайце **www.baza-belarus.org**).*

***27 сакавіка** — канцэрт у Нью Ёрку (Бруклін, 401 Atlantic Ave., інфармацыя на **www.baza-belarus.org**).*

# ДАР САКАВІКА

Заклік Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

***Дарагія суродзічы!***

***Штогоду на ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР Рада БНР зьвяртаецца да беларускага грамадзтва з заклікам скласьці ахвяраваньні ў фонд Дару Сакавіка. Гэтыя ахвяраваньні даюць магчымасьць Радзе БНР абараняць незалежнасьць і дзяржаўнасьць Беларусі на сусьветнай арэне.***

***Заклікаем усіх, хто прачытае гэтую абвестку, або да каго падыйдзе зьбіральнік ахвяраваньняў з падпісным лістом на Дар Сакавіка, шчодра адгукнуцца на гэтую важную патрэбу. Чэкі трэба выпісваць на "Friends of Belarus" і іх можна беспасярэдне пасылаць на адрас Скарбніка Рады БНР:***

*Vital Zajka*
*85-27 Dexter Court*
*Woodhaven, NY 11421*

*Рада БНР*

# Віншуем



*сужэнства Пятра і Лену РЫЖЫХ з нараджэньнем сына ЯНКІ. Няхай расьце добрым чалавекам і сьведамым беларусам на радасьць бацькам і людзям.*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| І. Сурвілла | 60 |
| М. Баяроўскі | 50 |
| С. Будкевіч | 50 |
| К. Верабей | 50 |
| А. Жызьнеўскі | 50 |
| Л. Кавалёў | 50 |
| А. Міцкевіч | 50 |
| Н. Няпейн | 50 |
| М. Сьнежка | 50 |
| К. і Я. Вініцкія | 40 |
| Н. Адаська | 30 |
| С. Аўдзейчык | 30 |
| С. Балкоўскі | 30 |
| Д. Гумбар | 30 |
| Г. Дзем'яненка | 30 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 30 |
| П. Каян | 30 |
| Я. Крэсла | 30 |
| Ю. Паплеўка | 30 |
| С. Піражок | 30 |
| Я. Сіманюк | 30 |
| Х. Сімончык | 30 |
| В. Смолка | 30 |
| С. Трыгубовіч | 30 |
| А. Халадзінскі | 30 |
| М. Шпэдзюк | 30 |
| Х. Кажаневіч | анг. фунт. 10 |

Заміж кветак на магілу Нюры РУСАК:

| | |
|---|---|
| Р. Жук-Грышкевіч | 100 |
| Л. Кажан-Дубовік | 40 |

Заміж кветак на магілу Людмілы КОЛІН:

| | |
|---|---|
| А. Орса-Романо | 50 |

Усім шчыры дзякуй!

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belsrusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

© BIELARUS, 2004

Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*
ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018